


**ВЫПУСК 127**

НАСТА КУДАСАВА

# ВЯСНА. ВУСНАМ ЦЕСНА

*Вершы, пераклады, проза*

Мінск
«Кнігазбор»
2021

УДК 821.161.1-3
ББК 84(4Беи)-44
К88

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў*
*«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 127.*
*Заснаваная ў 2009 годзе.*

Літаратурная прэмія імя Міхася Стральцова 2021 года
рашэннем журы ў складзе Алены Стральцовай,
Уладзіміра Някляева, Барыса Пятровіча, Міхася Скоблы
і Аксаны Спрынчан прысуджана
**Насце Кудасавай**
за навізну метафарычнага асваення духоўнага свету,
спалучэнне традыцый нацыянальнай паэтыкі з мадэрнісцкімі
вобразна-выяўленчымі мастацкімі формамі.

**ISBN 978-985-7227-98-3**

# З кнігі «Лісце маіх рук» (2001–2006)

* * *

Прыціснутыя цітламі будняў,
Незаўважна губляем гукі,
Якія робяць нас
Сапраўднымі словамі.

* * *

Калі маё жыццё свой шлях завершыць,
Пакінуўшы пасля сябе прабел,
Я ўсе мае пакутлівыя вершы
Аддам табе.

Калі мой дух з зямнога вавілону
Памкнецца ў Абяцаную Зямлю,
Я буду аднаму табе па сконе
Спяваць «Люблю».

* * *

Зачараваная...
Скароная
чужому
гонару.

Чужому
водару
падараваная.
Зачараваная...

Адкуль
такая
таямніца?
Мне сніцца
снег
і ўсмешка...
Ведаеш,
салодкі мёд
абпальвае язык.
Твой фотаздымак
зросся з маім сэрцам.

* * *

Табой
запоўніцца
бяссонніца,
маўчанне загучыць —
табой.
Вачамі прачытай
жаданне
і будзь са мной
да развітання —
да скону ночы
будзь са мной!

Вазьмі мяне ў свой
вір ці вырай,
да беспрытомнасці —
бяры!
Няхай згарыць душа жывая
за недазволены парыў...

Пакуль не пакарае ранне
за грэх салодкі —
будзь са мной!
Па вуснах прачытай жаданне
і будзь са мной
да развітання —
да ночы скону
будзь са мной!

* * *

Мне хацелася скласці верш —
пра цябе і для цябе —
такі мілагучны,
такі моцны,
якога
нікому
ніколі
дагэтуль
не прысвячала.
Але ў горле — роспач.
І словы
падаюць
на аркуш
грубай
бяздарнай
прозай,
такой жа няскладнай
і бесперспектыўнай,
як нашае
няздзейсненае каханне...

* * *

Твае вочы, як неба, сінія —
На зямлі мой прытулак адзіны.
Твае вочы — і скон, і скінія,
І пагібель мая, і святыня.

Ты спыніўся ў маёй бяссонніцы
Скрыжаваннем усіх вымярэнняў.
У жыцця аднастайнай хронікі
Ты падзея мая і падзенне.

* * *

Безліччу безданяў ляжа пад ногі
Боль развітання...
Мне застанецца ні мала, ні многа —
Зморанасць здані.
Мне застанецца пустэча сустрэчаў,
Знішчаны шанец...
Безліччу безданяў скончыцца вечар.
Вечная памяць...

* * *

Твар за тварам знікаюць людзі,
Распушчаюцца ў суме горада.
Мы ідзем па шляху ілюзій,
Дзеля пэўнасці намі створаным.

Сэрцу сніцца свая свабода,
Сэрца мроіць цяплом і цішаю...
Мы ідзем па шляху пародый —
Гэты свет не дазволіў іншага.

* * *

Бездакорны радок.

## СНІЦЬ

Буду сніць сінім,
бо белым — набалела,
чырвоны ж зачаруе вычварэнствам жарсці,
а жоўты — пражэрлівы цяжар жыцця,
зялёны назаліў...
Дык буду сінім сніць,
сінім, як мора,
як Марыса птушка...
Сінім сніць буду,
каб чорнае ўчора
і страшнае заўтра
спыніліся ў сінім сёння.

## СПАТКАННЕ З ВЯСНОЙ

### -1-

Восені! Толькі восені!
Госпадзе, досыць,
                                        досыць мне
Біцца самотным ветразем...
Божа! Пашлі мне Верасень!

Сэрца замоўкне — буйнае.
Песня сарвецца — чуйная.
Знікне чаканне — смешнае.
Сціхне жаданне — грэшнае.

Быццам жыццё — халодная,
Быццам любоў — нямодная,

Восень!
Святая, родная,
Самая неаб-ходная...
Самая непаз-бежная...
Дзе ж яна, Божа?
Дзе ж яна?..

**-2-**

Вясна ружовая
мяне ўкрыжоўвае.
Самотнай птушкаю,
крывавай стужкаю
душа трапечацца
ў палоне вечнага.

Вясна — бяссонніца!
Вясна — прыгонніца!
Вясна — манюка!
Рукі
выкручвае,
сэрца атручвае
вясна балючая...

Ідзі, насмешніца!
Ідзі, я грэшніца...
За мной — ні-чога:
ні Бога,
ні Лога-са.
Сама
магу.
(Магла б, магутная,
калі б не ты, вясна атрутная!)
Ну, што спыняешся?
Ідзі!
Я каюся...
Кахала? Бясконца...

Чакала? Як сонца...
Час марнавала — марыла.
Зама́рылася.
Замары́лася.
Вясна, змілуйся!

* * *

Восень!
Лёс мой!
На боскіх кроснах
тчэш прыгоствы
душы і свету...
Запавет мой!
Імпэт і мэта!
І манета,
што б'е ўсе цэны...
Восень —
вось мая
панацэя!

* * *

Верасень — вершы.
Кастрычнік — казкі.
Лістапад — лісты
з вершамі,
казкамі,
лісцем маіх рук...

## ВЕРАСЕНЬ

Веру Верасню
гаспадару.
З цемры шэрасцяў
вырву рух —
вырву Верасень
з цвердзі дзён!
Там на беразе —
легіён,
там — прыгнечаны
дол жыцця,
тут — стрыечная
неба — я.
Вырву Верасень
(веры сінь!),
з цвердзі шэрасцяў —
неба плынь...

* * *

Саламея... Самлею ад чырвонага хмелю...
Галубінае сэрца тваё, Саламея,
Пераспелыя вусны, выкшталцоная прага...
Адчаго так чакаю тваёй грэшнае ўвагі?

Саламея... Лілея, белакрылая кветка,
Выбуховая здрада аднастайнаму свету,
Ап’янелая поўня на нямым небасхіле,
Жыццядайная годнасць, смертаносная сіла...

Саламея... Салодкая жарсць пацалунка —
На бясколерным твары крывавы малюнак,
Дзе застыла навечна пячаткай адчаю
Ракавое: «Кахаю, кахаю, кахаю...»

* * *

Дома вечар.
Мы пішам прозу.
Хутка плечы
пакінуць позы,
хутка месяц
захопіць вокны —
столькі месца
рукам і крокам.

Дома голас.
Мы пішам прозу.
Так бяспола
і так сур'ёзна:
толькі розум —
разгром паэзій.
Пішам прозу:
аз, букі, ведзі...

Дома водар
жыцця і піва,
пенны подых
радкоў крыклівых.
Злыя дозы
нам піць дарэшты...
Пішам прозу,
а самі — вершы...

## ЧЫСЦІНЯ

*Ксеніі Галіцкай*

Ксенія
сее
насенне
вечнага.

Невылечная
чысціня...
Не спыняюцца
дні няўмольныя...
Хіба здольныя
пець так сольна мы,
так салёна
ад слёз
і болю?
Вольная
птушка
Ксюша
зрушвае
шэрыя душы —
Богу верная.
Неймаверная
чысціня.

**КСЕНІІ**

Дабяжы
да мяжы
запаветнага
жыць...

Скрозь чужыя
крыжы,
міражы
дабяжы!

Будзе вецер
дасвеццем
над намі кружыць...
Нам бы выжыць і жыць!
Нам бы стаць,
а не стыць
штохвіліну,

штодзень,
штонадзею,
штомару...
І мы таем, бы хмары,
між «разумных людзей».

Дабяжы
да мяжы,
узніміся і жы-
ві! Vivat!
Давід
спявае...
Спавівае
нас ноч сівая...
Зноў мы пераўзышлі ліміт!

* * *

Ксенія рыфмую з асенняя
асенняя заўсёды ўлюбёная
жыву за чужымі сцэнамі
чакаю цябе скронямі
чакаю цябе далонямі
расквечаны ўсмешкаю вечар
за што мне мая ўлюбёная
так шчодра такой недарэчнай

* * *

Любіш санетныя формы і формы бяссонных —
Котка, натхнёная дахамі і Мадыльяні...
Колькі мы жыццяў з табой прапілі, прагулялі,
Перш чым сустрэцца ў далёкім шматколерным сёння?

Лапкаю здрапваеш зоркі з пякучага неба.
Бог нам не выдаў чамусьці ні гонар, ні сорам...

Хай жа яснее душы несмяротная форма,
Ноч аздабляючы вершам, кагорам і хлебам!

* * *

У вачох тваіх схавалася восень,
У руках тваіх — пяшчота і вера.
Бы чароўны незямны жыццяносец,
Ты паўстала над будзённым і шэрым.
Сталі ночы пераходзіць у вершы,
Сталі вуліцы чакаць тваіх крокаў...
Закаханая ў касмічную ўсмешку,
Я згараю ў тваім ззянні, сяброўка!..

* * *

Золак, малаком заліты...
Абдымаю неба грудзі.
П’ю цябе за літрам літр,
Мой звычайны новы будзень!

Будзе дзень, як сотні іншых, —
Непаўторны і ўлюбёны.
Зноў здаецца, што Ўсявышні
Мне ўсміхаецца спрасоння...

Я люблю яго малітвай,
Бо мне большага не трэба:
Золак, малаком заліты,
Маладыя грудзі неба.

* * *

Я не ўмею
даваць найменні,
выключэнне —
любоў і боль.

Так лілейнае
агаленне
апраменьвае
Мірабо.

Сцісну словы
ў камяк сталёвы,
досыць мовы —
кіно нямко!

Толькі музыка
вольных блюзаў
лезе вуснамі
ў мой спакой...

Там за рысай
стыхійных місій
мяккім лісцем
павіс Парыж,

там успыхнеш
птушынай вышшу
і суцішана
дагарыш.

* * *

Раскрытыя крылы крыжоў
Паралельна зямлі.
Я сведка сусветнага шоу...
Гандляры, каралі —

Кара́лі бясконцага «быць»,
Незлічоны пясок,
Прывычны караць, каб скарыць,
Праглынуўшы аброк.

Раскрытыя крылы крыжоў
Паралельна зямлі,
Дзе многія моцныя ўжо
Назаўжды паляглі,
Дзе вечны скрозьземны прастор
(небыццё ці нябыт?)
закрэсліць асадкаю зор
слова жалю «рабы».

**НА ТЫМ БАКУ**

Я буду чакаць вас, пакуль трываю,
Я буду чакаць вас — на тым баку.
Таму не жадаю казаць: «Бывайце»,
Таму, як заўсёды, кажу: «Пакуль».

На тым баку я паўстану новай,
Схаваўшы ў Лету пакутаў бруд.
На тым баку я спаткаю Слова,
Жывое Слова — мой родны кут.

На тым баку я ўсплыву шчасліва
Ў бязмернасці безмаральнасці.
На тым баку я зраднюся з нівай,
Каб з новым сэрцам наверх расці.

Я буду чакаць вас — наскрозь жывая.
Я буду чакаць вас — на тым баку.
Таму не жадаю казаць: «Бывайце»,
Таму, як заўсёды, кажу: «Пакуль».

* * *

Дзесьці хваляй блакітнаю бацька Дняпро
Казытае пяскі Рагачова...
Зацугляць бы мне пару магутных вятроў
Сваім цвёрдым радзіміцкім словам!
Хай лятуць, хай пяюць берагам дарагім
Майго сэрца шчымлівыя песні.
Можа, там я пазбаўлюся горкай тугі,
Можа, там мой спакой уваскрэсне...

* * *

*Габрэйскім могілкам горада Рагачова*

Над рукой Дняпра
узышло крыло
нерухомым пер'ем
каменных плітаў —
нерухомым пер'ем
сыноў Давіда,
адляцелых у залаты
шалом.

Над рукой Дняпра,
бы нямы папрок,
паляглі калісьці жывыя
сэрцы,
і апошні сціплы прэзент —
бяссмерце —
ім прынёс адзіны наведнік —
Бог.

* * *

Партрэтаў рэбры
на сухой сцяне.
Гісторыя.

**ДАДОМУ**

Дваццаць шэрых гадоў праплылі
непрытомна.
На агромністай гэтай зямлі
мне бяздомна.
Мне бязладна, бязмэтна,
без месца, без зместу.
На бязмежнай зямлі не жыве
маё места.
Не паддасца такая гара —
аксіёма,
Але блізіцца ўжо час
збірацца дадому.
Не прыціснуты горкай гарой
(горкім горам),
над агромністай гэтай зямлёй
ёсць мой горад.

* * *

У бязвер'і — як у труне!
Не ўздыхнуць, не падняцца, не
выйсці ў свет.
Шлях адзін — святло.
Сэрцу — слова, руцэ — крыло...

Хай пачуццяў ліецца вольніца,
Размываючы раздарожжы...

Ад каханняў і ад бяссонніцаў
Адрываюся.
Сыходжу.

* * *

заМАРЫНАваная Вашымі вершамі,
мая першая

**АВІСАГА**

Танкарукая жрыца,
апякунка стагоддзяў,
у Господняй гаспадзе
непрывечаны госць,

ні сястра, ні царыца —
безгалосая птушка —
там, дзе сцюжна і скрушна,
засяваю мілосць.

Побач дыхаюць эры
і ўзіраюцца лёсы
ва ўладарныя кросны
у чаканні ахвяр,

ды замкнёныя дзверы
у бязмернае сэрца,
і так цяжка сагрэцца,
мой нязведаны Цар!

* * *

Нізкімі нотамі, нізкамі Ротмана
Я зашываю маўчанне адчаю.
Цацка без сэрца, ваўчыца бязродная,
Кінутая ў чалавечую зграю.

Ночы чароўныя выраслі здрадаю,
Рукі ўлюбёныя выраслі здзекам...
Госпадзе! Я была б казачна радая
Не нарадзіцца сюды чалавекам...

* * *

Глінтвейнам Верленавых вершаў
сцякаецца вечар.
Нам схема да скону: кунежыць,
калечыць і кленчыць,
нам змены адмерана меней,
чым хочам і можам,
камусьці акторам на сцэне,
камусьці — у ложы.

Завеі Верленавых зоваў
атульваюць вочы...
Калісьці мы злучымся ў слове,
мой сябар, мой змоўшчык,
мой ключ да навоштага сёння,
да простага досыць.
Абсэнтам Верленавых сноў
набліжаецца восень...

* * *

*А. Башлачову*

Голас твой я нашу ў горле —
Цяжка дыхаць, калі песня.
Так хацелася стаць зорным —
Назаўжды цяпер не злезці.

Ці ты скончыўся, мой сейбіт,
Перайшоўшы ў спакой стрэхаў?
Пад глыбокім нямым небам
Голас твой я нашу рэхам...

Не сумуй, мне ляцець хутка,
Вокамгненна згарыць крылле.
Хай на горад паўзуць чуткі
Пра мой першы зямны вылет...

* * *

Сваімі вераснямі-снамі
Я вымяраю Ваш спакой.
Нібы дзіцячы арыгамі,
Дрыжыць пад небам горад мой,
І так бязлітасна-тужліва,
Што толькі ўздых «Памілуй мя»
Здалее выкшталцоным дзівам
Закрэсліць Вашае імя...

**ПАЭТ**

Стосы лёсаў на Вашых плячох,
Непраходных вякоў лёхі...
Калі Слова было Бог —
Свет прысвечаны Вам, бог мой!

Над імёнамі гаспадар,
Спадарожнік ліхіх зыкаў,
Сёння тронны Давід цар,
Заўтра блазен ці аніка...

Не знікайце з зямных дарог,
Нам блукаць тут яшчэ многа...
Калі Слова было Бог —
Вы заўсёды былі з Богам!

Так і будзеце — сваякі —
Сумнявацца, ствараць, журыцца...
Праз стагоддзі-мацерыкі
Застаюся чакаць Вас, рыцар!

## МОРА

мора буркоча марамі
мора паслухаць трэба
мора хавае Феба
і ад маркоты самымі
лекамі як найлепшымі
можа быць толькі мора
мора хавае гора
і не вяртае
верыш мне?

* * *

Мой анёл, шматмільённыя мы ў гарадах
Шматмільённых, што так не пасуюць анёлам,
Праз дасціпнасць багоў нам не дадзены дах,
Але целы тым болей не цягнуцца долу.

Мой далёкі спакой, мой будзённы абсурд,
Так спяшаюцца ў вырай паэты-пінгвіны.

І пакуль прагных выжыць збіраюць у гурт,
Мы ляцім, і ў паветры знікаюць правіны.

* * *

Твор твайго твару:
гартаю старонкі
Святога Пісання,
дзе з кожнае літары
цэлы сусвет
паглядае ў душу.
Ты ў накладзе адзіны такі,
мой асобнік,
што імгненна чытаю цябе
ўсё жыццё
і здзіўляюся таленту Творцы.
Мой Кніга!
Хто б мяне дапісаў
на палях твайго я
хаця сціплым радком,
каментарам...

**БЕЛАЯ**

гарэлі арэлі незразумелага
гайдалася ў полымі белая белая
ад долу няспелая
вартасць грашыная
хавалася белая
ў шэрасць мышыную
шукала прычыны
для ўласнага існага
шушукалася з матылькамі іскрыстымі
гарэлі арэлі ад шэрага жэрлага
бялела балела але не памерла я

* * *

Sum —
Сум.

* * *

Не перакласціся
на мову моцных.
Камусьці радасці,
камусьці воцат,
адзін узвысіцца,
другі скалее,
а мне б насыціцца
вачамі Леі.

Па дну па горкаму
(падзеі — слайды)
паўзла, ды ўзгоркавай
чакала праўды,
так сэрца слухала —
гарэлі веі,
пакуль раздзьмухала
сваю завею

...і разгулялася
(ave паветра!):
занабліжаліся
жывыя спектры,
бялелі, біліся
ў пакутных родах...
І расступіліся
гнілыя воды!

## ЛЕС

Лес мой лёс,
мой голас слёзны,
хвояў хор
з адных галосных,
негалосна
лес мой — дом мой,
тут вырошчваюцца
гномы
ўсіх радкоў маіх
шматмоўных,
лес мой муж
і палюбоўнік,
ён гудзе
адвечным «будзем»,
мой зялёны
цуд у цудзе.

## ВЕРШЫ

Вершы-вершнікі,
зухаў рух,
вамі цешацца
руны рук.

Вершы — вернікі
ўсіх дарог!
Толькі бераг —
далее Бог,

толькі мера —
памрэ маяк,
вершы ж вернуць нас
на свая,

бо няпрошаных
ваяры,
непарушны апошні
Рым.

* * *

мроіва ночы,
смерць пад павеццю
ведаю: воўчым
сон мой завецца
ведаю: ўперад
бегчы да скону
скідваю нерат
з ног маіх сонных

што мне так спіцца?
што так пяецца?
белай ваўчыцай
бегае сэрца...
мроіва ночы:
смерць і пасмерце
голас мой — воўчы
верце мне верце!

* * *

Халодны непрытульны змрок
Плыў над сталіцай шэрай зданню,
Калі нам падарыў спатканне
Магутны літасцівы Бог.

І ўскалыхнуўся небасхіл,
Нібы таксама закаханы,
І толькі ўзнёслае «Асана!»
Спявала ноч на свой капыл.

Час прыпыніў свой хуткі бег,
Змрок адышоў за далягляды,
А з неба з ціхім шэптам падаў
Бялюткі блаславёны снег...

* * *

Я патрабую траўня — спрэс ружовага,
З цукровымі аблокамі і юрам!
Я патрабую траўня пажыццёвага
І шчасця пад пратэкцыяй Амура!

Штодня гукаю, як вар'ят, галёкаю
Ды пакрысе ў чаканні дагараю.
І не дажыць мне да вясны далёкае,
Як да твайго ўзаемнага «Кахаю»...

* * *

Дотык вуснаў і... знікні!
Толькі сплю,
Толькі сплю...
Разам з ранкам стазыкім
Я свой боль наталю.
Нахілюся лісліва
Перад лёсам маім...
Можа, стану шчаслівай?
Толькі дым...
Толькі дым...

За ўсе скарбы і грошы
Я цябе не куплю...
Дотык вуснаў... Навошта
Толькі сплю?..
Толькі сплю...

* * *

Вясна.
Вуснам
Цесна.

* * *

Вясна крочыць...
Вясна-прарочыца!
Мне так хочацца
Табе ў вочы

Нырнуць птахам,
Агнём бяссонніцы,
Тваю вольніцу
Адным махам

Скарыць юру,
Дажджу спеламу...
Мы звар'яцелыя
Каламбуры!

Мы прастора
Беспакараная –
Жывы ранак...
Жывая Тора...

* * *

крок за крокам
іду ў шматкроп'е...

# З кнігі «Рыбы»
# (2006–2011)

* * *

Гарады дагары нагамі.
Дагары нагамі мы самі.
Дагарым. І гарады з намі.
Амэн.

* * *

Божым збожжам, божым Сожам
Пад рукамі млее лета...
Пачынаем падарожжа
Безнадзейнаю планетай.

Ад Гаморы да Садома
Просты шлях — зямная куля...
Тут нам звыкла, тут мы дома —
Спі, дзіцятка, люлі-люлі...

## МАЙСЕЙ

*Паўлу Севярынцу*

Майсей, мой сейбіт,
Далёка золак,
Староты сполах
За Вашай спінай...

Сінайскім хлебам
Карміць галовы —
Такія ўмовы
Вам даў Адзіны.

Майсей, скажыце,
Ці сорак многа,
Калі да Бога
Як па патэльні?

Ці хопіць жыццяў
І Вашых зерняў
На горкі тэрмін
Шляху ў пустэльні?

Але на голас
Вы гола выйшлі,
Каб з Усявышнім
Стаяць сам-насам,

Каб кожны кволы
Засвоіў крокі
Услед Прароку
І Кнізе часу...

Маўчаць стагоддзі,
Драбнее след Ваш,
Крыўляе сцежка
Ў палон бур’яну...

І хто адродзіць
Ваш добры подзвіг
І дасць мне сподзеў
На Абяцанне?..

* * *

Калі не зашываецца адчай,
А рвецца на нянавісцяў мільярды,
Мне ўвесь наш вырай — Божа, выбачай! —
Здаецца несапраўдным і нявартым...
І хоць не пераконваецца мозг,
І свет людскі — адно сырое мяса,
Даруй мне ўсё, прашу, і дай мне моц,
Каб выдыхнуць, узняцца і застацца...

* * *

Мае новыя вочы, што носяць тваё імя,
Пазіраюць, як Буда, палохаюць, як Іегова.
Маё новае горла скаўтнула стары камяк,
У маім новым почырку подых — таксама новы.
Хай учора мой дзень турбаваўся і выгараў,
Прыпадаў да зямлі пад жыцця непад'ёмнай ношай...
Сёння ты — мой Алімп, мая Мекка і Матхура,
А пасля — хоць патоп, хоць утопія, мой апошні!..

* * *

> Мой маленькі лемур, у цябе вялізныя вочы,
> Прыпадзі да маіх грудзей, маленькі лемур…
>
> *Н. Кучмель*

Набрыняла табой да пазногцяў, да завушніцаў —
Ажно цяжка пасунуцца з ложка: ляжу і расту...
Што было да цябе, мне не vita, а ўсё толькі vice,
Беспрасветны бястварны хаос, неразборлівы ўступ.

Невядома, чаму гэты дзень выпадкова-прарочы
Не згубіўся, як іншыя, ў віры жыццёвых віхур...
Мой маленькі лемур, у цябе вялізныя вочы,
Прыпадзі да маіх грудзей, маленькі лемур...

* * *

Можа, ты на адлегласці выцягнутай рукі,
Толькі б выцягнуць мне руку кіламетраў на трыста...
Засынае насенне цела ў чаканні твіста
Неўтрымальных далоняў... І мне ўсё адно, па кім
Зазвініць той апошні звон на сыходзе дзён,
Калі мы ўваскрасаем першымі тут і зараз...
Праз мільёны дарог (ні хваробы, ні смерць, ні старасць!)
Я гляджу на цябе і квітнее — шчаслівы — Ён!

* * *

Сонца ўзыходзіць над Вашым плячом,
Ранак пусціла фіранка скрозь пальцы...
Дзесьці натоўпяцца шэрыя пляцы,
Дзесьці сумуе наш будучы дом,
Дзесьці дзяржавы знікаюць, а мы
Зноўку жывыя, што б нам ні казалі —

Выспаліся. І на пару згрызаем
Ранішні яблык, каханнем памы*ты*...

## ДОМ

### -1-

Восенню лепшы сон — сын.
Восенню лепшы стан — тын
выцягнутых угару душ.
Восень ахутвае, як муж,
і авалодвае, як смерць.
Восенню я не хачу мець,
кінуўшы далечыні дол.
Восенню першы сум — дом.

### -2-

Сёлета дом мой — дым.
Сёлета дзень мой — сон.
Цешацца гарады
з гэтакіх аксіём.

Выціснуцца б *назад*
з чэрава гарадоў!
Сёлета сон мой — сад.
Сёлета сум мой — дом,

дом і за домам — сад
(лепш за пасады цуд!),
вырвацца б за фасад,
за мітусні прысуд —

дзе каранямі ўглыб
душаў квітнее сад...

Госпадзе, спапялі
сёлетні лістапад!

**-3-**

Мару аб доме
з потам і бытам.
Так пра абдоймы —
Афрадыта,

гэтак нябёсы
сніць Ікар,
лепшыя лёсы —
зямны шар,

гэтак згарала
хіба Федра...
Марная справа —
свайго метра

вычакаць
               з варыва
гарадоў.
Марная мара —
зямны дом.

* * *

*Ягору Летаву*

Да яснага Стыксу
выходзяць жыццёвыя лёхі...
Складае валізку
апошняе сэрца эпохі.

Складае далоні
апошні задзірысты лямант.

А нейкае сёння
сядзіць па гарэлачных крамах,

а нейкае заўтра
нясецца ў сваю павуціну
і б'ецца заўзята
за новага штучнага сына...

І збітая кожным,
распнутая векам іконаў,
так бездапаможна
гукае. «Мая абарона»...

* * *

Выспай устану з далоняў твайго акіяну,
Богу на рукі ўсхаплюся расплюшчаным тварам,
Выкіну ўсё, чым мы ўнізе бяздумна цяжарым,
Стану як ціша, як найдасканалае стану!

Кім мы былі і якія багомілі гульні?
Скідвалі простых, любілі чужых і пярэстых.
Нам не надарыўся гонар прыйсці і ўваскрэснуць —
Толькі прайсці, як праходзяць і ролі і кулі...

Толькі цягнуцца бясконца нязграбінай-шыяй
Да спадзяваных далоняў, да вечнага ўсміху...
Госпадзе, як жа ў цябе тут і ясна, і ціха,
Я б засталася, Усявышні, на гэтых вышынях...

* * *

Заліўная папера: Дняпром шматрадковым разліцца б...
Ды сціскаецца дых, і ў нямым захапленні сплываю,
Каб ізноў нарадзіцца, ізноў на дзяўчынкавых крылцах
Даляцець вокамгненна да Конга ці да Парагваю,

Каб, заплюшчыўшы вочы, мінаць безыменных маньякаў,
Заклапочаных зайздрасцю жыць па сезоне і модзе,
Каб трымаць свой сусвет, як заўсёды, крыху не ў парадку,
Быць, як сораму волат, як першае «Будзе!» і «Годзе!»

* * *

Големы нам завяшчалі знямелае:
цэглу без голасу, рэбры без Еваў.
Мы ж аддзялялі ад шэрага белае
вершастваральным акордам залеваў,
слухалі ўсхліпванне глебы высокае,
снілі стракатых дарог алілуя,
мерылі вонкавых ранамі-воknамі,
сэрцамі ўсмоктвалі срэбныя кулі...

* * *

рыбы зяваюць ротам: «хто ты?..»
голас, дайце мне голас — голай!
пад маўклівым зямным сумётам
як я вытрымаю голад
безрадкоўя і бясслоўя —
спрэс мелодыя, спрэс горла?
там, дзе выйдуць усе высновы,
кіньце голас мне, каб не ўмёрла.

## ЛЕТА

Летам Харон хварэе на дэжа вю.
Лета як лета: слёзы, пялёсткі, усплёскі,
ноч раздзірае сузор'ямі галаву
і заглядаецца ў душы нібы па-свойску...

Але такі не новы мой сум і жаль,
так захліпаецца бераг спрадвечнай нотай,
што нават словы кладуцца ў знаёмы жанр
і да знаёмага вабяць пяяць і лётаць...

* * *

Прываарожаныя дарогамі,
Непрыкаяныя двухногія,
Абмінуўшы пустое многае,
Мы шукаем свой дом і лёс.

У спаборніцтве з вечнай шэрасцю
Мы трымаемся толькі вернасцю,
Блаславіў нас самотнік верасень,
Добрай восені сумны ксёндз...

І пакуль драбяза царыцаю,
Не зміррыцца і не змарыцца нам,
Бо з такіх дапатопных рыцараў
Мы ствараем сваіх багоў,

Што ляцім на спатканне з марамі
Наваяўленымі ікарамі,
Каб пакінуўшы абцяжараных,
І дапіць, і дажыць нагбом!

* * *

Саламеі перагарэлі,
Адгарлалі сваё грахі,
За абветранай шырмай веяў
Акрыяла мая Рахіль.

І ў даўно занядбаным храме
Заяснеў спадзяваны сын.

Хай не прыйдзе ні сонца маме —
Толькі б здзейсніўся Біньямін...

* * *

Люты мне латы шые,
Люты — маё золата!
Выцягваю ў неба шыю,
Ратуючыся ад холаду,
І холад выходзіць вонкі —
Стаю, быццам баба снежная...
Вось-вось... і пачну старонку!
Вясновую — новую — лепшую!

## НОТЫ

### -Нота лепшая-

Калыхала Лея немаўля,
пеставала сонейка ў далонях...
Слухала пранікліва зямля,
як пяяла праведнае ўлонне,
як сусвет, уздыхваючы ў такт
непадробнай мацярынскай ноце,
радаваўся так, што Сам Мастак
забываўся аб сваёй самоце...

### -Нота Марыніна. 31 жніўня-

Нота Одзіна, нота адзіная —
Адзіноты маёй немата...
Буйнавокае сола савінае
Да сасны, да сястры, да куста...

А хацела ж і неба, і філіна
Да птушыных грудзей прытуляць,
Ды на ўзгорку застыла рабінаю —
Толькі неба цяпер і абняць...

* * *

...і пасыплюцца радкі
з апусцелых рукавоў,
замаркоціцца мой кіт,
змоўкне даўганогі воўк,
дзесьці адцвіце міндаль,
ну а тут — у краі заячым —
зразумеўшы, мой каваль
выйдзе ў поле і заплача...

## РАЗВІТАННЕ З РАДЗІМАЙ

Сланы ляцелі сумнай чарадой,
пранізваў неба плач іерыхонскі...
Сланы ляцелі з Індыі абдой-
маў да краёў свіных-качыных-конскіх...

...Ужо намацаў глебу дзіўны сон,
растаў вушыны подзвіг на світанні...
І толькі самы несуцешны слон
не мог паверыць у сваё расстанне...

## САНКТ-ПЕЦЯРБУРГУ

Горад усіх чужых
Збудаваў мне сцэну.
Мой камертон — уздых
Гэтых моцных сценаў.

Горад чужых адных,
Адкажы, навошта
Носіш так часта сны
І не носіш пошту?

Не адпускаеш жыць,
Даючы так поўна,
Горад такіх чужых
Чалавечых чоўнаў...

Сам сабе цар і мур —
Бездакорны горад!
Дар мой, скажы, чаму
Ты мне стаў на горла?

* * *

...А там плывуць кіты і ты —
вялікіх рыб вялікі нераст,
а я ад смутку і слаты
паціху тут сыходжу ў верас,
і мне знайсці ваш акіян —
як заснавацелю Маконда —
такі адчай, такі туман,
што нават спіцца безвыходна...

## ДА ДНЯПРА

Дамы-дамавіны
цябе залепяць,
мой сумны, мой слынны
страцім-лебедзь...

І над паваротам
святой пекнаты

дамы-бегемоты
разявяць раты.

На хвалях шэдэўра
з мільёнаў паўтонаў
дамы-проста-зебры
паўстануць шаблонна.

На тлустых абедах
узрошчваць прагрэс
дамы-дамаседы
рассядуцца спрэс!

Няўмольна бяздомных
(у *свой* час!)
дамы-мажардомы
сажруць нас!

* * *

Прыўзнятыя бровы дуброваў
здзіўляюцца новым будоўлям,
а нам — збудаваным са словаў —
будоўлямі поўняцца поўні,
а нам — баламутам і блазнам —
сусвет адкрываецца кніжкай,
складаецца ў зорныя пазлы
і рукі даверліва ліжа...

* * *

...Каб наш размах не перабольшаў
размаху тонкага крыла.
Каб я, як раніца ці вожык,
заўсёды сённяшняй была.

А калі нітка дапрадзецца,
як схопіць іншая пара,
вазьмі маё жывое сэрца
і пахавай на дне Дняпра:

там скрозь празрыстыя сялібы —
з пакоя ў царственны пакой —
верлібрамі сплываюць рыбы
ў бясконцай прастаце сваёй!..

# З кнігі «Маё невымаўля» (2011–2016)

* * *

вершалінаў вершалініі —
соснаў роспачнае sos —
я самотаю птушынаю
чую рытмаў вашых рост:
як жукамі-караедамі
словы пад карой свярбяць,
павучынай абэцэдаю
тчэцца вершавая бязь,
як радок бурштынам свеціцца
на хваінавай руцэ —
лес якубаваю лесвіцай
у нябёснае расце...

**СЛУП**

Сусвету ўслед глядзець, як Лоту,
не падымаючы рукі.
Стаіць самоту страшнаротую,
не расчытаную нікім.
Стаяць, маўчанне ў неба сеючы,
тугая соль — на языку.
Мне вечнасць абдымае плечы
і боль вымае — па радку...

* * *

Заклятыя лютым пілоты,
салдаты ў шыхтах адзіноты,
старое прагорклае праўды
расхрыстаныя касманаўты...
Ляцеце! Сусветы вам пухам!
Айвенгі, магутныя гукам!
Найвышняга выраю горцы,
заклятыя лютым празорцы...

* * *

разбягаюцца anni domini —
новых зморшчынак разбяры,
я й сама на зямлі паломная —
вечны восеньскі пілігрым,
я й сама, што ні ўдых, рухомая —
пругкіх сэрцаў гартую спрыт!
закунежу і вылечу ў комін...
варажбітка. завея. ліліт.

* * *

мне сівіліныя высі
адгукаюцца ўвушшу.
ты шукаеш зручных выйсцяў —
я расплюшчана пішу,
бо прымятай вышнім колам
хораша ў траве ляжаць
і чакаць душой вясёлай —
ну, калі там сенажаць?

* * *

хрыбтамі рыб наросхрыст
бяжыць мая рака.
я, можа, толькі Босха
лічу за сваяка
і ў звар’яцелым вусці
нашу свае віры,
выспельваючы вуснамі
пяянне срэбных рыб.

* * *

недарэчна мне тут — рачной!
залячы хоць якой лячбой —
накармі з небасяжных далоняў,
рытмаплёскатам адары
і ў віры мяне забяры —
я ссыхаюся ў гэтым палоне...

* * *

нішчымная шчымлівая бессань
капошыцца пад рэбрамі бездань
галёкаюць у галаве здані
апошняя надзея світанне
прарвацца ў санцавітае заўтра
ратунак ад сябе-цемразаўра
схаваўшы ў кулуарах завочных
аскоміну ніскімнае ночы

* * *

гэта дні нам здзекліва тыцкаюць ролі —
і хварэеш моўчкі,
але ёсць свабода абліваецца болем
у самоце ночы,
бо няважна, дзе ты, няважна, хто ты,
калі ў кожным — студня,
і ніхто не ўратуе цябе пяшчотай,
ніхто не ўратуе...

* * *

падушка — бо падаць
і тварам, і духам,
балючую вадкасць
з вачніцаў выплюхваць,

зрабіцца маленькай
і безабароннай,
абняць за каленкі
сваю абалонку

і слухаць, як вулей
капошыцца ў сэрцы,
пакуль не прачнуліся
дзеці

* * *

мінатаўрамі шчэрацца заўтры
з лабірынта *чатыры сцяны*,
не ратуюць ні сутры, ні мантры,
гаспадар не зніжае цаны.
я ўсім сэрцам шукаю тырана,
што стварыў гэтых будняў клішэ,

і, сляпая, спяваю «Асана!»
тым, хто не раскрывае вушэй.

* * *

ілбом
выпіваю сцяну
нагбом
мокражылле цягну
з нутра
беспрытульны калос
пара
распранацца да слёз

* * *

неўтаймоўнае невымоўнае
прыляпілася на язык,
не выплёўваецца словамі,
патрабуе інакшы зык,
зубной шчоткай не вычышчаецца,
не выдыхваецца праз нос —
так ад раніцы да раніцы
і жыву — на ўвесь рот нарост

* * *

можна адрэзаць дрэды,
гледзячы Джа проста ў твар,
і слухаць, як коціцца вуліцамі
мая лысая галава,
замінаючы крочыць прахожым,
крэкчучы ад пустэчы,

можна адрэзаць усё,
                    што ўціскаецца ў лёс чалавечы,
і скарыстацца спадчынай
                    гідры заўждыгаловай —
выпрастаць шыю-парастак
                    і ўзрошчваць сябе па новай,
выснаваць дрэва стромае,
                    стол прамяняць на ствол,
чуючы ў кожным ранку
                    перадсмяротнае хараство.

* * *

Каханы!
Так многа вятроў у маіх пакоях,
і ўсе спадарожныя, так што чакай —
хутка буду!
Бо зрываюцца донкіхотамі вершы ў бойку
і не мне
напрарочана ўведаць разважлівасць мудрых.

Кашалоціха-сэрца
ізноў ад паветра п’янее:
з акіяннага цела высоўвае смешную пысу,
глытае свабоду,
упырсквае ў сонныя вены
і нясецца насустрач дарогам
з абдымкаў Каліпса...

* * *

засмактала ў дрыгву дарогаў,
ап’яніла бяздомным ветрам...
не зварочвай, мой дзікі вектар!
мне мяне для жыцця замнога —

я праз кожную пору лезу
ў гэтым смешным гарачым целе,
і з люстэркаў галёкаюць бесы,
і не надыходзіць пахмелле...

* * *

з бярвення ў веку маім
можна скласці хату
і жыць там,
і мацаць далонямі
дзверы шурпатыя,
каханых у ложак класці
бліжэй да сценкі,
каб шэры ваўчок
не ўкусіў за бачок,
каб і ім прызвычайваць зрэнкі
да жытла,
у якім і паліць, і кахаць
па-чорнаму,
бо колькі б дурную мяне
не вучылі вучоныя,
я ўсіх маіх высілкаў лес
адпраўляю на дровы,
і дзіўлюся дагэтуль сама,
але сон тут харошы,
здаровы.

* * *

...і дарогаў незлічоны дар,
шляхаў лек,
дзе душы крокам гояцца,
лёг пад ногі мне,
іду —

паломніца —
вомшаю падэшвамі абшар...
не шкада ні ложка, ні стала:
толькі цела мне ў багаж прызначана,
але й гэты
травам кіну ў спадчыну,
каб заўжды свабоднаю была,
каб ішла бясстрашна што ні старт,
пешкі праз жыццё, абы не пешкаю,
несла ў вуснах пацалунак вершавы
і дарогаў незлічоны дар...

* * *

еду,
таму што едка,
таму што ніводнае шчыліны
не пакінула гэтая клетка,
каб дыхаць,
каб быць шчаслівымі,
таму што тугу,
як фугу,
нашу за шчакою — моўкная!
таму што крычаць усе югі
праз сэрца балючыя вокны
і воржы ўнутры
шкрабуцца,
рукамі кранаюць
кашлатымі,
дык дай мне бясконцасць
вуліцаў,
гасцінец свабоды —
шлях...

* * *

вырай навырост пашыю,
каб духмянымі былі.
я не ведаю месіяў —
толькі музыку зямлі.
мне не дадзена адкрыццяў —
толькі чуць гаворку рэк
і як восеньскае лісце
душы хараством дзярэ.
я з усмешак і малітваў
зладжу моцны добры трос,
каб надзейна быў пашыты
вечны вырай навырост.

## САБАЧАЕ

паімчу палямі басалап —
мірыяды м*у*зыкаў у пашчы...
падалося, некалі была
я жанчынай з доляю прапашчай,
падалося, п*а*далася так,
быццам дыванамі дол убраны,
быццам кожны адбалелы такт
дзьмухаўцамі зарастаюць раны.
мо таму так вабіць далячынь —
далячу ж! ні лапай не самлею!
бо сабачы лёс — імчання чын —
палявое волі паўназелле...

## ВЕРА

Вернецца тое, што горнецца,
кінецца ў богаву торбу —
толькі вяртаннем і корміцца
веры вярблюд мнагагорбы,
рушыць пустэльнямі шэрымі,
моліцца ёлкай калючцы,
чуе прачуласцю зверавай:
блізіцца той,
хто нам сэрцы расплюшчыць.

* * *

выспеюць новыя выспы,
з мора павысунуць пысы,
вырай праверaных душаў —
вырастуць новыя сушы,
вырвуцца з воднае выдмы —
вечнасці велічны выдых,
край без марнечы і псуты,
верадам не закрануты.

* * *

не да посуду
апастылага
міраносіцы
песеннажылай...

дні днявалі
*елабуга* ела
ты не каралі
на шыю надзела
неба закрыла

столлю як панцырам
хто мае крылы
не можа не ўзняцца
хоць раз
хоць на метр
ад абсурднага долу

апошні дзень лета
заўтра ў школу

* * *

так *елабужна* так бязбожна
так пячэ пад рабрынай роспач
па акраўках буйнымі швамі
я сшываю як коўдру сэрца
а мне проста б вачэй насупраць
чалавечых вільготных ясных
ухапіцца за позірк (а раптам!)
як за нітачку арыядніну

## РЫБІН ЦАР

*Віталю Рыжкову*

рэбрамі ведаю — рыбін цар!
з рыцараў ордэну праўды рыбінай!
так
толькі лепшыя
з небыцця
здольныя вынырнуць,
бліснуўшы спінай.
так выкараскваюцца з сябе
і мкнуць навырост,
берагоў не бачачы,
каб уляпіцца ў п’яны карабель

і злізваць радкі
языком гарачым...

* * *

і цалавала рыбам вусны,
і клала рукі ім на плечы,
і разумела — невылечна,
ды я даўно ўжо не лячуся,
я ў гэтай восені ваганняў
адно хачу налюбавацца,
як рыбы ў феерычным танцы
тапочуць па рацэ нагамі...

* * *

а я спяваю мантры горам
і мандрагорам,
бескампраміснага пракруста
цалую ў вусны,
забойцатварыя гаргоны
мне б'юць паклоны,
і да грудзей сусвет крадзеццца
рукамі зеўса...

* * *

з жарсцю спевашчокіх жабаў
усхваляю родны стаў
Ты мне даў жыццё як хабар
і з усмешкаю растаў
я пяю Табе адчайна
не зважаючы на плён

толькі слухай толькі дай мне
адшукаць Імя Тваё

* * *

Восень засталася воссю,
стрыжнем тонкае душы.
Мне так мала давялося
лісце крокамі крышыць,
што адну кунежу мару:
хай па сконе дзён і дат —
за абрывам каляндарным —
будзе вечны лістапад...

* * *

Верасень — роспачны Вертэр —
лісце пакуе ў канверты,
піша парывіста «Werde!»,
моліцца дрэваў пажарам.
Я не чакаю збавення —
ведзьма ва ўсіх пакаленнях.
Дай мне руку, мілы геній,
ты мне найлепшая карма.

Пойдзем з чужое грымёркі
ў край, дзе не дзейсныя оркі,
выкрыкнем urbi et orbi
горлаў расхрыстаных праўду:
як раздзіраюцца сэрцы
ў тых, хто не ведае смерці,
і выпадаюць — на вецер —
словаў жывыя смарагды...

## ВОСЕНЬ-САНСАРА

Восень прыйшла і ўсё
паставіла на сваe месцы:
бульбу ў капцы, чаравік —
у калюжыну, вершы — у горле
паставіла колам, каб іх
выкашліваць па адным
штораніцу з цыгарэтным
і іншым будзённым
дымам...
Восень прыйшла нястрыманай,
паўсюль вінаватай жанчынай —
мая недарэчная цёзка!
Я ведаю, мы толькі коскі
ў чыімсьці сакральным тэксце,
я ведаю, мне застаецца
не больш і не менш, чым Ёву.
Восень прыйшла — і ўсё.
І ўсё пачалося нанова...

* * *

падаліся лістападамі
ўсіх лістоў маіх адчаі
там дзе давяраюць радыё
не зважаюць на маўчанне
зазімую ж як даводзіцца
ў золаце вялікай моўчы
хай на стромах галалёдзіцы
падрасце мой дух сірочы

## ПАМЫЛКА

мулкі няўмольны холад
памылкай памыцца,
быццам хто выламаў колы
і ўсунуў мыліцы...
мелецца ўсё. не думай,
што нешта выжыве.
час загоіць мне сум
і цябе заліжа.

* * *

загаіла б, ды гай далёка...
значыць, зноў давядзецца
клёкатам
заліваць папяровую немасць,
касякамі сплаўляць на нераст
усю пяшчоту,
каб рытмы выправіць,
яснавокімі выліцца літрамі,
быццам выплакаць можна
хібы.
быў бы гай унутры — загаіў бы...

* * *

укруціўся ў нямую хаціну
адзіноты маёй слімак,
я гібею ў гушчарах правінаў —
навучы мяне полю, зіма!
астудзі! я гару ў маім целе,
не па росце мне гэты агонь!..
пакажы, як утрымліваць белым
злую глебу шаленства майго.

* * *

закунежыла б —
важнага, кніжнага,
толькі чую ўсім сэрцам —
не выжыву!
не ўратуюся — быць пераможанай!
моўкнік недатыкальны,
варожы мой!
чым ты прываражыў мяне, сцюжную,
што шалею ў пякучым нядужанні?
і за можнага межы
сплываю,
нечакана адчуўшы —
жывая...

## ДО*ТЫ*К

Ад я да ты — толькі дотык
і ў роце пякучы эрот.
Разбіцца б усёй адзінотай
аб твой неабвержны жывот,
каб потым з мокрага месца
ўздымацца за ўдыхам удых,
сусвету адмытае шкельца
вымаючы з вечнай вады.

* * *

легчы і боль аблегчыць,
у неадольны лог
злезці душой пакамечанай,
уткнуцца табе ў крыло
і слухаць, як топіцца наледзь
пад роднага сэрца крок,

запамятаваўшы памяць
найлепшай з маіх дарог.

* * *

рукі-прарокі!
ну, што вы прарочыце?
вашыя дотыкі —
лёгкія лётчыцы —
пералятаюць
з грудзей на ключыцы,
не адшукаюць,
куды прызямліцца...
птахі вандроўныя,
пальцы-пілоты!
як жа цудоўна,
што дзень сёння лётны...

* * *

свербная нядзеля,
памяці ланцуг,
у сэрцы як падзею
я цябе нясу,
не сумую — смягну,
млосна языку,
безназоўнай магмаю
цераз край цяку,
і такая ж дома —
пенелопе шах!
да цябе ў абдоймы
так
просіцца
душа...

* * *

непрабудныя пенелопіны будні:
зазіраць у будучыні
студню,
затыкаць раты
успамінам-прорвам,
заліваць адчай
вершатканым морам,
вечары залечваць,
залізваць золкі...
адзінота —
вытанчаная голка —
пракалола
полае сэрца-мячык
і на жылах аголеных
танчыць.

* * *

не лячы мяне,
я і так лячу —
штопалёт пакрысе лягчэю...
мне ўздымае крылы туга-вяшчуння,
такіх
не ўратуеш зеллем
і не ўпішаш, хворых, у схему дзён —
незлічоным няма паліцаў.
я ў грудзёх тваіх танчу —
гарэза-знайдзён —
і на вуснах
пяю
сініцай.

* * *

кожнага шолаху ведаю шлях
і сустракаю — шалом!
пешкі ўвесь вавілон прайшла —
шукала сваё святло.
ад абыслоўя разгублены слых,
марнасцяў поўны лоб.
упартая, лезе вясна, і буслы
кранаюць раны крылом.

* * *

гойсала па лёсах,
пятак не шкадуючы,
жменямі дзівосы
псам кідала вулічным,
але ў здрадзе нотаў,
калі роспач — горлам,
там, на дне самоты,
ты мне быў падораны...

* * *

абпалю агнягукаю песняй
не ўпалюю але апяю
я твой вернік з атраду кудзесных
мяккакрылая ноч-гамаюн
буду пеставаць пер’ечкам кожным
ты мне толькі бы сонца ўзыходзь
каб вітала штодзень як апошні
і трымцела птушыная плоць

* * *

лячу ўспамінам сунічным
крылом сінічным крануць.
хоць велічным,
хоць найзвычным —
аблочным,
яблычным —
будзь!
каб гэты струнны сястрыны
не сціх аркестр унутры.
ці стойкім,
ці хуткаплынным —
жыві, мой светач,
гары!

## АБДОЙМЫ

абдоймы — надзейны дом,
дзе нішчыцца шум падзейны.
жывое,
як ля ці до,
абдоймаў тваіх адзенне.
адзень жа!
крылом абдай!
і вымкнемся з кола дарогаў,
застылыя ля
і да —
да першага слова зямнога...

* * *

Жнівень.
Выжыць:
злівы словаў,
здраду віваў безбародых,
спрэс паголеных, як нервы...
Лета
стомленай гетэрай
адыходзіць на спачын,
і адно мне дорыць радасць —
жолудам пад ногі падаць
Госпаду...

* * *

збіраемся сэрцамі ў нашым гета
расчытваць будучыні азы,
празорам пырскаюцца сусветы
і агаломшваюць нам язык,
утаяванае поўнай жменяй
шпурляе з неба нам зорны лось,
і мне не страшна, хоць ноч даўжэе,
бо можна выжыць, пакуль ты ёсць.

* * *

дарогамі жыццё мярэжыцца,
нязведаным на раны дзьме,
і я лячу адчайнай вершніцай
насустрач зоркавай гудзьбе,
боль вызваляючы атрамантам,
бо слова — лек, і слова — сыць,
і паўстаюць муравы храмамі,
і кожны гімнамі звініць...

## СПАТКАННЕ

спатканне — тканне спаянасці,
спагады вышняй пагляд.
пакуль не спаліцца спальнасцю
душы нямое цяля,
пакуль бясцела, бяздотыкна
выдыхваем дзён палатно,
нам дадзена кожным спотыкам
радніцца ў адно радно...

* * *

мае рэкі ўзараныя роспаччу рыбіных рыкаў,
маю зрок ад прарокаў,
але спруцянелы язык,
а ты пішаш так стройна,
як бог дасканалаязыкі,
знітаваўшы ў душы-веляморы вярхі і нізы.
занатуй жа ўсе нашыя ноты, што не прагучалі,
невыпеўнасць пяшчоты маёй
для мяне занатуй,
і магчыма, я вынайду пойму
жывога маўчання,
адамкну ўсе шляхі
і дарогу ў наш вырай знайду...

* * *

сей бязбожнаму збожжа,
хай збірае ўраджай,
можа, знойдзе ўсяроджанасць,
пераможа адчай.
каб у злым раздарожжы
не аслеп, не зблукаў,

сей бязбожнаму збожнае —
дай апраўду рукам.

* * *

сцеражы гэтых рытмаў няўстойлівы смак,
даражэннай цаною здабыты.
так хавае сваіх цуда-юдаў касматых
рака міліярдалітрая,
так стрымаць бы ў грудзёх трапяткое «люблю»,
так вароне б за сыр ухапіцца,
каб ігольнымі вушкамі сонмы вярблюдаў
ішлі ў твой аазіс напіцца...

* * *

так знаёма заняло
мову мітуслівых сённяў.
я выпроставаю крыло
над прасторамі-далоньмі,
каб ляцець на іншагук,
наўздагон бруенню рэкаў,
дзе ўзрастае вечны луг —
мякка сцеленая мекка...

* * *

там, дзе рэчы стануць рэкамі,
рэйкамі для ўцёку душаў,
я пайду з нутром парэпаным
марнадзёнства абцярушваць,
я пайду, пакіну многае,
дараванняў не чакаю,
бо была занадтаногаю

і ўпівалася шляхамі,
бо як здраднікаў адрынула
ўсе падручнікі й парэнчы,
я пайду — паўсюды вінная —
ў край без роспачаў і рэчаў...

**НА РАЧЭННЕ ДНЯПРА**

абярэгі тваіх берагоў
ратавалі мяне ад шаленства,
вартавы самых сэрцавых сэнсаў,
найтрывалы з усіх багоў,
агаліў мне такую глыб,
што дыхнуць не магу, каб не хлынуць,
і раку, бы ў суроку, няспынна,
лашчу ў роце харалы рыб,
лаю роўных, пяю крывым,
нюхам чую адных крылатых...
раю вірны! спатоля і латы!
нарачоны мой пілігрым!

*** * ***

млынавае паўнавольнае
мовінае рамяство
вонкі зманлівымі ролямі
вываровчвае на стол
што ламаецца што мелецца
скроні спрэс у скразняках
скальдзіца мая кялейніца
ненамольная мука

## АКРЫЯЦЬ

акрыяць гэта крылы і хлеба акраец
родны край і крый Божа не скрадзены вырай
гэта выкрываніць да раскаяння памяць
і на ветразі перакраіць свае шырмы
гэта прага няскоры і скарбы адкрыццяў
піць паскораным сэрцам крынічнае слова
каб урэшце зрабіцца прыўкраснай сініцай
і саграцца пад пахай святарнай каровы

* * *

кінь мяне,
і так закамянелая —
моўкну я шляхоў тваіх наўзбоч.
тысячы гадоў сівілай пела я
светачу тваму —
вярні мне дождж!
каб абмыцца вольніцай самотнаю
там,
дзе мы — нязбытныя — прайшлі,
як праходзіць слава пустаротая,
як усё
праходзіць
на зямлі.

* * *

выспяваем у спеве —
галасоў каласы.
не пытай, хто пасеяў
нас у полі пустым,
не схіляйся,
бо шэрань

хутка ўсходы дзяўбе, —
да астатняга зерня
спей сябе.

* * *

ведаць бы,
што не перапоўніцца
мора,
як ні прымае захады,
што — шчаслівыя —
рыбіны моляцца
і спяваюць харалы алаху
усяводнаму,
і не зрываюцца
галасоў пуцяводныя ніці,
а растуць, абтрасаючы памяць,
і сягаюць наверх
крыніцамі.

* * *

вершы —
каб вымяраць вяршыні
ці, выміраючы
ў горы вершавым,
высвабадзіцца ў разлог птушыны,
туды,
дзе гняздуюць сэрцам шырэйшыя,
дзе я не буду вачмі ліслівіць,
рук абцяжарваць нішчымнымі ласкамі —
словы развешу лупатымі слівамі
і абярнуся
ластаўкай.

* * *

калі старты абернуцца старасцю,
выйдзе ўрэшце запас пачаткаў
і захочацца бурбалкай-карліцай
вонкі вылецець з целавай хаткі,
і захочацца паху аблочнага,
дзьмухаўцовага лётнага раю,
каб забылася тлумная вотчына
і знайшлася сцяжынка старая...

* * *

адзіноты затоены віскат,
быццам нітку, перакушу
і пайду па-жабрацку, па-мніску
гадаваць самазванку-душу,
каб дарогамі нас і трыпутнік,
і сунічнік мядовы люляў,
каб, на сцежках радзімы распнутая,
узрасла гадаванка мая.

* * *

а водар твой мяне вядзе
туды, дзе ў пушчы бездарогай
шукае ноты ў барадзе
і грае Пан касматаногі,
дзе столькі вечнасці ў гудзьбе,
што ўжо не страшна ведаць — хто ты...
і хочацца любіць цябе
да самай незваротнай ноты.

* * *

не хачу ні мора, ні літасці.
толькі б з гэтага болю выпаўзці.
нібы ўласная скура мне здрадзіла,
і па мясе раздзёртым градзіны
скачуць вусцішна, саламейна.
забяры мяне ў рай кялейны,
ласкай пекла маё прычашы,
каб — душа, і вакол — ні душы...

## КУДАСА

выдзьму твае спадзевы,
дзеі прыцерушу,
вусцішнай каралевай
выстуджу ўсю душу.

лепей адразу здайся
і не хавай ключы:
ад варажбы кудасы
моўкніку не ўцячы.

выцалую ўсе вершы —
заледзянее рот,
будзеш, жабрак бязвешні,
стыць халастым нутром.

я на кавадлах віру
лёс твой перакую —
будзеш насіць як вырак
злую любоў маю!

## ДРЭВЫ

бязногія, тысячарукія.
заўсёды ў абдымках у неба.
цярпліва стаяць у бязгукаўі
й расці
навучылі мяне вы.
сталець, так брыняючы верай,
каб,
згубіўшы лісты без астачы,
штовесну ўздымацца над шэранню
зялёнай зарніцай гарачай...

## ПРАРАСТАННЕ

прарастаем праз тугія расстанні,
праз нялітасцівых дзён чарназём,
бо магутнае, як смерць, прарастанне:
выпрастаць сябе жывымі лістамі,
абтрасаючы бытнечы рыззё.

бо не трэба ні пяшчоты, ні ласкі
дыхаіснаму, як ветразь, лісту.
зняўшы цела баязлівую маску —
яварам сівым ці кедрам ліванскім —
я з любой зямной раллі прарасту...

## ВЫБАР

ад бязмор’я гэта змора,
зрывы сухажыццяў,
ночы шчэрацца бяззора
вусцішнымі жрыцамі,
нас павыкідаў на бераг —
сумнавокіх рыбаў —

непасільны, непамерны
чалавечы выбар.

## ПАТОП

боль, памножаны на ноль,
не зраўняецца ні з чым.
быў бы ў сэрцы дзейсны ной —
і той
не здолеў бы ўцячы.
хай жа не жыве ніхто:
ні сініца, ні асёл.
будзь, бязлітасны патоп!
нішчы маё ўсё!

## НА РАЗВОДДЗЕ ДНЯПРА

лусні крыгамі,
у бераг плясні,
размачы зачарсцвення нуду!
бачыш,
стомлены змрочны саньясін —
я
пустымі шляхамі брыду,
бо
зрываюцца людзі,
як ноты,
на паўспеве
і ў горле стаяць
незагойным гаркавым налётам,
што не выкашляць
і не назваць.

## ПЕРСЕФОНА (КОРА)

### -1-

Ты даўно дарослая,
Кора танкарукая,
не падманвай вёснамі
прагі завірухаў...

Як ні карагодзіла б
ты на ўсцеху маміну,
лета не выводзіць
цемрадзевых плямаў.

Звабіць жар гранатавы
ў вечнаноч забытую,
і заснеш, сунятая
пешчамі Аіда...

### -2-

А пад скурай ранейшая Кора —
некрануты кудмень падкорны.
Носіць вёдрамі гоіва зораў,
залівае дарослы змрок.

Кора, краска, дзяўчынка-пялёстак,
як мы робімся тлушчам каросты?
Як трухлеем, найлепшая з сёстраў,
нават не прыпыняючы крок?

* * *

> Рысі ў сініх лясах асінавых.
>
> *А. Сыс*

Рысі ў сініх лясах асінавых
пазіраюць вачыма дзікімі.
Еду я чалавекаспынам,
і нікому не Эўрыдыка,

толькі лес мне ў Арфеі просіцца,
клён далоньмі ільне ўкаханымі.
Дрэваверніца, сцежканосіца —
расшпіліла наросхрыст раны,

вецер дзьме ў мой адчай нялечаны,
кліча жыць на прасторы любыя...
І сядаюць шчыглы на плечы мне,
і ўсміхаюцца на ўсе дзюбы.

## ЯГАДНАЯ МОЎЧ

журавінавы ваўчыцын
верш табе дашлю,
хай табе ў чужыне сніцца
пушчаў нашых шлюб.
хай ад роспачы ратуе
ягадная моўч,
помні пра мяне лясную
і дадому кроч...

* * *

пешчавы слой пакрывае скуру
і раз’ядае цела эмаль —
так я старэю,

сумленне хмуру,
лічу, як вязень, за маем май,
нашу тваe пацалункі ў порах,
амаль разыходзячыся па швох...
колам пякельным
стаіць на ўсё горла
шчасце,
што кожны з нас
не ўбярог.

## САЛАМЕЯ

саламея, звярыца, шалом! шалом!
не прыкрыеш драпежнай душы крылом.
як пад рэбрамі шал, то чакай крыгалом —
ад сябе не ўцячы, не схавацца.

так звіваюцца рэкі ў віры — насляпкі,
так збіваецца боль у радкі-камякі,
так гібеюць сусветы па волі рукі,
распасцёртай у жудасным танцы!

* * *

гэта клінапіс маўкліні
муліць, коле,
абдае неспакоем дні
ўтульных роляў,
гэта концасці напамін,
злы і просты,
прама ў вочы глядзіць —
нямы —
дзідай вострай.

* * *

ва ўсмешцы хаджу, не здымаючы, як у гіпсе,
каб зрывы мае, каб адчаі мае зрасліся,
каб выбавіць рот ад жуды і задыхаць нанова,
ва ўсмешцы хаджу, нібы блазанка, пажыццёва.

**АДЛЕГЛАСЦЬ**

расстояние — козыр прыстойных.
застылая постаць Асолі на беразе іншасвету.

расстояние — гэта стаяць паабапал разлукі,
расстаўленымі расставаннем
на месцы сваіх адзінотаў.

а што мне рабіць з нашай *адлегласцю*?

кіламетры пустых узмакрэлых прасцінаў...
і мы —
так адлеглыя адно ад аднаго,
на такую цябененамацвальную далечыню,
бы адкладзеныя лёсам
на потым.

**ДАЛЬ**

даль расцягваецца ў дай
з кожным кіламетрам жылаў,
памяць цела — злая здань,
карніца
тым, што любілі,
верніца шчымлівых дзён,
катавальных ранкаў служка,
успамінавым рыззём
набіваецца ў падушку...

* * *

узняцца на гару пляча
і ў барадзе тваёй заблытацца,
схаваць увесь зямны адчай
у непрамоўленае «злітуйся»,
каб разгадаць, што толькі тут,
табе прыліплая да шыі,
я разумею свет як цуд
і спасцігаю ўсе вяршыні.

## ГОРАДЗЕ НАШ

горадзе наш,
атулі, сагрэй,
але не судзі, не важ.
закрый ад людзей,
сам стань ля дзвярэй,
горадзе, схове наш...
дай нам дапіць гэты лёс нагбом,
смутак наш забялі,
ты ж ведаеш, горадзе,
толькі любоў
трымае мяне на зямлі.

* * *

замяці, зіма-гаіцелька,
лужынаў прастрэлы чорныя.
я сама, як лісце, выцвіла —
як жа пуста, як прасторна мне!
тут, у пекле, дні што вусені —
распаўзаюцца, атлусцелыя...
замяці ж усё, што схлусіла:
памяць,

голас мой
і цела.

* * *

засталася начэй прапісная халодная гжэль
і ў пустым прастакутніку ложка мая адзіночка,
засталося штодня адчуваць, як цяжэй і цяжэй
перасоўваць жыццё без цябе слімачыхай ацёчнай,
засталося глядзець, як на нашым нязбытным шляху
зарастае ўспаміннікам шчасце, што мы не ўтрымалі,
быццам ты толькі сон, што, да шкла прытуліўшы шчаку,
я прыснiла аднойчы ў апошнім сталічным трамваі...

## ЦЕЦІВА

цела маё цеціва
робіцца ўсё напяцей.
хутка танчэе канва
музы,
жанчыны,
маці.
счэзне і спрыт,
і грым,
жончын забег,
і доччын,
толькі б трымаць жывым
пульс стралы
невідочнай.

зловяць свой верны рытм
часу ліхія арэлі,
цэль адамкнецца ўгары
і нехта стрэліць.

## ГЭТЫ ЧАС

звар’яцелыя,
сочацца дрэвы тугой,
не хаваючы голага вецця.
я люблю гэты час прыадкрыцця Твайго,
час прадбачання блізкае смерці.

сёння восень гаркавая,
быццам імя яго,
што не сціраецца з вуснаў,
і няма ўжо ні славы,
ні сілы мяняць
гэтых будняў парадак пракрустаў.

* * *

а цяпер толькі памяць
унутраным зверам скуголіць,
у вярэдзіве дзён незаўважаная,
нічыя...
як мільёнамі кветкавых моваў заходзіцца поле,
хіба ведаеш ты,
мой пагардлівы юны пчаляр?
як ламаецца голас пчаліны
і тонкія крылы,
калі ўбіцца з адчаю
ў нязбытнасці мёрзлы сумёт,
як любіла цябе нацянькі,
безаглядна
любіла,
пакідаючы ліпкі й духмяны
ў руках тваіх
мёд.

* * *

здрада хапае за горла, як таць,
і надыходзіць вусціш:
ні зварухнуцца нельга, ні ўстаць,
ні проста сказаць камусьці.
а нешта ўнутры, як аб сценку гарох,
б’ецца, псуе гэту цішу.
з усіх тваіх мараў, падзей і дарог
я самая-самая лішняя...

**ЯБЛЫЧНАЯ АСКЕЗА**

летам налітыя, яблыкі целаў
млеюць дадолу ў мурог бы пацэліць,
дзе паўнаўладны муркоча амур.

дай мне ўтрымацца хаця б на хвілінку,
Госпадзе дрэваў, жывая галінка,
дай зружавець тут і ўбачыць зіму!

колькі мы падалі хціва пладамі,
падалі смелыя, падалі самі,
колькі мы спелыя славай гнілі...

ні пустацвету, ні шалу паяцаў,
Божа раслінавы, дай не ўбаяцца,
ссохлай малітвай застацца ў галлі.

* * *

дзе адхланне маё натхненне,
яблык райскі, цяпло каленяў,
пуцяводаў дняпрыстых плынь?

разжавалі, укрыжавалі,
адышлі, а душа — жывая,
ценькае на канцы іглы.

дзе ты грэеш плячо-падмогу,
як ты Богава спеліш Богу,
з кім ты пішаш на брудэршафт?

ці глядзіцца вачамі ў вочы,
ці там б’ецца ў грудзях сірочых
твой забыты варштат?

* * *

каб віхуры ды залевы
нас не гналі ў спіну,
стала б табе каралевай,
нарадзіла б сына.
каб даверыў маім ласкам
ты сваё бяссонне,
я б табе, бы ясну краску,
вырасціла доню.
хай гады гарацць, як трэскі,
я б цябе, мой дбайны,
абняла па-каралеўску
ў каралеўскай спальні.
быў бы мужам дзівародным,
быў бы другам вольным,
каб нам бог суліў пагоду,
каб ты быў кароль мой...

## ПЛЯЧО

плячом палячы, прытулі аж датуль,
пакуль не пачнецца віна,
прадыхай ратункам у скронь-слепату мне,
што я не адна, не адна.
хай збудзецца ўсё, што так страшна назваць,
што цепліцца ў гронках-руках,
пакуль я сплываю ў пляча твайго завадзь —
шчаслівы пакорлівы птах...

## ПОЛАЯ

полымем поле выжата,
болем — выжыта.
горыч-камяк піжмавы,
віны вы ж мае!
быў жа ўраджай споведзяў,
вырай сподніх дзён...
выпаленая полымем,
іду *полая*.

## ЛІПАВЫ

адскавытала, і струны асіплі,
і на ўвесь выдых — падранак песенны.
помняцца толькі пяшчота і ліпень,
іншае намертва болем знесена.
быццам ні крыўдаў, ні жалю, а так...
нейкая блазанка ў горле ўсхліпвае...
лета прыйшло — шарлатан-мастак! —
з водарам нашага шчасця — ліпавым.

* * *

дзень выпадае з рукі вінаградзінай,
коціцца сном у самотаву ўпадзіну,
жнівень стаіўся на сэрцы, бы скрадзены,
бы не дазволены мне.

выпырхну ў раніцу, роспач загушкаю,
звыклай мальбой перакінуся птушкаю,
быццам ад пошчаку знішчыцца скрушнае,
быццам і гэта міне.

* * *

навальнічнаю сцяной
стаіць адчай.
як жа катаржна адной —
без ні-пляча!
абаперціся б на зліву,
як сцяну,
адпачыць бы ў караблі
чужога сну,
адпусціць бы ўсё, што зроблена
табой —
хай сплывае за парог
ракой рабой...

* * *

як збіваюцца здрады ў пухлінне душы,
як ламаецца голас, бытнечай зацёрты,
як знясільвае ноч,
раскажы,
раскажы,
як радок раздзірае адчаем аорту.

як не мецьмем з табой ні вала, ні кала,
толькі ў горле пяшчоты сляпую залеву...
раскажы ім пра ўсё,
покуль хопіць цяпла,
покуль я ў цябе веру.
твая каралева.

* * *

— дні гістэрык крумкачыных,
перацягвання айчынаў,
восень любаю жанчынай
прыкарнула на плячы.
прывідныя ўсе ключы —
распаўзаюцца ў залевах —
злева правы, справа левы.
цацачны грываcты леў,
мой верасень
маўчыць.

— ты прыйшоў мне ў зліставанні,
хорам сэрцавых літаній,
будзь жа мне ратункам,
дай мне
час мой дакарміць з рукі.
спяць кіты-мацерыкі,
я з ліста табе чытаю
цёплых вуснаў нашу тайну,
залатая-залатая,
не раскрытая нікім.

## ПАВУЧЫНАЕ

Павучыны пявучы
даматканы радок —
з тонкіх нітак сугуччаў
праца роспачных ног.

Між натоўпамі малпаў
у краіне кратоў
праца ўпэўненых лапак
над сваім палатном.

Кволы восеньскі лётчык,
павучок-чараўнік,
быццам беларабочы,
я сную чыставік,

каб ляцела каметай —
чуйнасэрцых маяк!
Вечным бабіным летам
будзе песня мая...

* * *

па ваколіцах-ваконцах
распускаю галасы.
восені камяк бяссонцы
папярок душы застыў.
хто ты, смутак раніцовы,
нераспелая раса?
словы
          словы
                    словы
                              словы
сыпле мне пад ногі сад...

* * *

люляй мяне, маё невымаўля,
закалышы ўвесь боль, на сэрцы змоўчаны.
я запалю мінулага кальян,
я абдыму цябе хвастом вавёрчыным.

за ўсё гарчэйшы памяці тытунь,
ды ўжо кранае золак лапкай макавай,
і я, закалыханая, расту —
вось-вось... і пацалую сосны ў макаўкі...

* * *

праз парэзы баразнаў
чуе глеба вясну.
так што дзейнічай, лёс мой,
не шкадуй, паласуй!
з’ела голас мне здрада,
грэх душу абкарнаў,
але можа і я дам
хоць бы жменю зярна...

## КАЛЫХАНКІ ДЛЯ ДЗЕТАК

### для Ягора

Спі, мой верны, мой маленькі рыцар!
Спіць на кухні булачка з карыцай,
Спяць у норках бурыя лісіцы,
Хвосцікі паклаўшы пад шчаку.
Спяць цукеркі ў залатых абгортках,
Спі і ты, пакуль не звялі зоркі,

Спі, мой любы сыне, спі, Ягорка,
Спі, а я твой сон пасцерагу...

## для Машы

Спі, дачушка, ночка ўжо імгліцца,
Спіць жучок салодка на былінцы,
Дзесьці едуць мірыяды прынцаў
Да цябе, і кожны — на кані.
Спіць стракозка, спяць пчала і вусень,
Спяць усе дзяўчаткі Беларусі,
Спі і ты, чароўная Маруся,
Спі, мая харошая, засні...

* * *

а ў садзе тваім базілік і хурма,
ступаюць пяшчотна сівыя ільвы,
ільды не даходзяць сюды, і зіма
з ільвамі сівымі на Вы...

ты слухаеш споведзь жука-баюна,
ты сонцам любові скрозь вецце плывеш,
а ноччу, калі засынае вайна,
ты з вуснаў маіх, нібы кроплі з акна,
сцалоўваеш восеньскі верш.

## СЫНУ

зашпілі на вечнае
часу паясы,
таямніцы-веснічкі
адамкні мне, сын.
цела сола горкае
не кладзецца ў рытм —

будзь жа проста зоркаю,
гары.

## КАЛЫХАНКА ДЛЯ АНІ

*Ані Трутневай*

беражыце яе, берагі-караблі,
дзе залізваў нам боль сіні-сіні заліў,
дзе на хвалях халвовых гайдаюцца дні,
дзе ўспамінам пра нас — камяні, камяні...
збеAboutражыце анёла на ейным плячы,
адамкніце ёй горад, і дайце ключы
і дракона, што п’е з рук пяшчоты ваду,
і люляйце яе, покуль я не прыйду.

## МЯДЗВЕДЗЕВА БЕССАНЬ

Адліга: шлях брынёю квокча,
мядзведзь пакутуе на бессань.
Ён слухае ў бярлогу ночы,
як вечнасць носіцца над лесам,
як прымінае дрэвам світы
рукой бязважкай і бязмежнай
і быццам нейкі сум забыты
ўздымае ў памяці мядзведжай...
І той падоўгу ў столь бярлогу
глядзіць вільготнымі вачамі,
нібы свой кон, сусвет і Бога
вось-вось уцяміць...

* * *

*Марусі Салаўёвай*

а святое аддайце сабаку.
у сабакі на донцах вачэй
адбіваецца свет невыгаўкны:
будкі храм,
дзе малітвамі ў лапках
колкі студзень пячэ,
казань-восень, казурак харалы...
і анёл прызямліўся на нос,
каб, адклаўшы нябёсныя справы,
слухаць разам у здзіўленых травах
дабравесце стракоз.

* * *

усе святыні — псам,
мышам і жабкам!
няхай люляюць псальмы
мяккай лапкай,
трымаюць вецер
выдыхам і ўдыхам
у келлях веццяў
вечных
дрэваў-мніхаў.
а ты кружы, ніжы
на восень восень,
ды прыйдзе Бог
сняжынкаю
на носе,
лістом сырым,
суніцай
адзінокай,
распяты ў кожным дні
навідавоку.

## ВАЎЧАНЯ

ваўчаня ў дзівосным садзе
пудкі мячык ваўчаня
ўзмах пякучых вінаградзін
тут не дом такім як я
дзе заходзяцца хурмою
ночы беззаганных рук
шэрае маё нямое
хто ты гэтаму двару

дык таі
гарчы і шчэрся
ўсе дарогі — верны дом
слухай сэрца
толькі сэрца
за касматым жыватом

## ЖУК

а яшчэ можна легчы сцяне на плячо
і паслухаць рахманых жукоў.
ці маўчыць ён пра тое, што ўрэшце знайшоў,
кволы жук у бліскучым трыко?
ці ў адчаі малітвы не можа заснуць,
калі болем заходзіцца сын?
ці таксама шукае шчакою сцяну,
бо баіцца не выжыць адзін?

## ЛІСТ ДРУГІ

у гэтым палацы я ведаю кожнае выйсце,
а выйдзеш у людзі —
і слупянееш паяцам.
нішто не сапраўднае, ведаеш, ёсць толькі лісце

і вецер,
зблукалы ў здзіўленні між сонцаў і пальцаў.
між сонцаў і пальцаў...
астатняе нам толькі сніцца:
і ласка, і роспач,
і ўсё, што так доўга балела.
а свет... ён даўно ўжо не верыць ні вершам, ні прынцам.
ні вершам, ні прынцам, запомні.
твая каралева.

* * *

...а жнівень тут падае
проста на голаў
салодкімі зоркамі алычы
і з разгаданых жаданняў нашых
зорнае варыць сочыва,
ўціскаюцца дні ў жалудовыя цельцы,
дзверы замкнёныя на ключы,
і ціша такая,
што нават сабакі ад вусцішы выюць
па-воўчы.
і ведаеш,
быццам нішто ўжо не б’ецца:
ні дотыкаў ток,
ні сініца ў руках, —
што лепей бы скласці ўсе роспачы ў кош,
не бядуючы болей над коштамі,
і выйсці ў акно,
як выходзяць у восень —
услед за крылом камікадзэ-лістка,
туды,
дзе любоў залівае пакорліва кожнага
і не пытае навошта.

* * *

*Сержуку Андрэеву*

лістападу не прывыкаць, што лісты, лісты...
што ўсе трыццаць начэй сніцца недасягальнае над.
а ў мяне толькі вецер і ты — мой адзіны тыл,
незалежна, вяселле грымнула ці вайна.

як ні дзіўна, а з ісцінаў выжыла толькі любоў,
і калі ўсе шляхі йдуць туды, значыць вось ён — Рым:
на высокім беразе ў сэрцы высокіх дубоў
адбіваецца нашымі лёсамі ў нашым Дняпры.

* * *

ні бліскучай змяюкай ракі,
ні жуком, ні вавёркай — нікім,
ні ў сабак на душы, ні ў дзяцей,
ні ў малітвах, ні ў кнігах — нідзе,
ні ў самоце пранізлівых станцый
не хачу,
не хачу я застацца.
ні на злосць, ні тым болей на біс
не хачу ў гэтай восені быць,
ні лістом, ні арэхам — нічым.
толькі спаць на тваім плячы...

## ВАДЗІМ

*Вадзіму Амірханаву*

...а лёсы звіваюцца самі ў такія віры,
што рук не ўзгадаць і п’янее плаўнік за плячыма.
імя тваё — споведзь вады,
павадыр белых рыб,

зялёнага мора зялёная ў сэрцы радзіма.
і хай я ў дарозе,
дзе кожны, як вечнасць, адзін,
дзе змрок спакушае штокрок памыліцца і ўпасці,
я помню імя, што як вырак — ідзі і вядзі!
і рыбай іду на святло з песняй болю і шчасця...

* * *

у падушкі мяккія калені,
у самоты — пільныя далоні,
шчытны водар вечнасці кялейнай,
вочы шэрых поні.
ля цябе цар-леў прыснуў на ганку,
для цябе сады ўзыходзяць раем.
тут — абезгалошанай цыганкай
я ўміраю.

## АВІСАГА

гэта проста няпудкія пальцы кустоў,
гэта ягадаў мёд у плячо табе дыхае.
гэта птушка прысела з малочным лістом
над спакоем сівым тваім — ціхая-ціхая...
гэта квецені клейкасць і рэк серабро
залiваюць твой сон цеплынёю пажаравай.
гэта цэлым сусветам, з надрыву вятроў,
я прыйшла да цябе,
каб сагрэць цябе,
цару мой!

* * *

цёплы хтосьці пад скурай калоціцца.
цёплы, здзіўлены, хто ты?
непад'ёмная кашалоціца —
б'е хвастом адзінота.
вечар даўкім адчаем зумкае,
вінаградзінай болю.
Госпадзе, вось я — нічыйнарукая.
я не магу так болей.

* * *

...проста верасень гладзіць жалуды па галовах,
зняўшы душаў капелюшы.
я з усіх чалавечых і рыбіных моваў
помню толькі «люблю» і «пішы».
быццам дзесьці пад скурай прарыў цеплатрасы
вострым кіпнем балючага «ты».
быццам восень мая зараз кінецца з часу,
як на бераг – ад шчасця – кіты...

# З кнігі «Побач»
# (2016–2021)

* * *

побач будзь
і
пабачыш

* * *

я шляхцянка крывей журавінных
і таму я гарчу.
я трымаюся ягаднай спінай
за імшараў парчу.

я шляхцянка пралескавых пляцаў
і таму я магу
дзіўным шчэбетам раскашавацца,
рассыпацца ў імху.

я шляхцянка вялізарных пушчаў,
я іду да таго,
хто зрабіў маё сэрца відушчым
і пусціў пад адхон...

* * *

бо такія жывуць насамрэч толькі там, дзе тонка.
ну, а ўсё, што рвецца,
я складаю рупліва ў рукаў.
і пакуль мяне ненавідзяць чужыя жонкі,
я ўсплываю між вамі штодня паплаўком радка.
я кажу, вось — вецер.
кажу, вось — хлеб, а вось — дотык.
я кажу, вось самоты пражэрлівыя смаўжы.
гэта Бог, я кажу, прайграе па нябачных нотах
нас усіх.
а яшчэ я кажу табе —
лепш бяжы!
бо такія жывуць насамрэч толькі там, дзе тонка,
каб усё, што рвецца,
струной
стала ў горле начэй.
і пакуль дзесьці спяць сном ружовым мужы і жонкі,
я кажу — цячы, рака!
і рака цячэ.

* * *

Сівому туману вычэсвай густую поўсць,
пакуль захліпаецца вечар самотай воўчай.
Я ведаю, тут у кожнага хтосьці ёсць,
каб грэць у далонях далонь і ўглядацца ў вочы.

Не мрой жа, такіх у шчаслівыя не бяруць,
ты — цень ад крыла, ты не варты нічога, нічога!
Але ёсць дарога дамоў, ёсць Дняпро і Друць,
ёсць пацерка поўні ў блакітнай руцэ Рагачова...

І можна яшчэ басанож увайсці ў лугі,
пяшчоту запхнуўшы глыбей, каб не рвала скуру,
ды слухаць, як лета пяе свой адвечны гімн
і верыць сабе, не зважаючы на партытуру.

* * *

Ветру,
дарозе,
маўчанню
свой голас раздам.
Шчасце маё — дажджавая жывая вада,
дзе Госпад па лужах гуляе ў гумовых ботах:
з тлуму людскога,
з пустэчы ўчарашніх газет
смехам складае й пускае чаўны па вадзе —
вечны пракуда маленькі,
жабрак бесклапотны.

Так і запомніцца:
вецер, дарога і ціш,
дрогкае золата скрозь на азяблым лісці,
вуліц пярэстых бясконцыя ніці-каралі...
І не заўважны нікім,
не пазнаны нідзе,
Госпад-гарэза бяжыць па асенняй вадзе,
лёс мой сціскае ў руцэ —
папяровы караблік.

* * *

трыццаць два, а дагэтуль — голая,
без'языкі пакорлівы голем.
не ўрастае ў мяне, не прымаецца
ні стырна —
толькі крык і памяць.

ты пашый мне кашулю крылатую
з веры кропнай,
спагады мятнай
і пусці мяне ў рай абязболены —
рай дзяцей, сабак і анёлаў.

* * *

родны мой, незгасальны мой леў
з алычовай расхрыстанай грывай,
я зламалася ў самым крыле
і не маю чым лекаваць зрывы,
я не знаю, што мур, а што мір,
і адкуль гэта даўкая вусціш,
і калі маіх дзён канваір
мяне ўрэшце адпусціць.

* * *

мёртвым не баліць, а мне — баляць,
баляць мае мёртвыя,
колькі ні замоўчвай, ні выкрэслівай, ні перагортвай,
колькі ні спрабуй трымацца верай у паняверцы...
мёртвыя мае, ну як там? пішацца вам?
пяецца?
ці хапае крылаў анёльскіх — без рук рукацца?
ці не надакучвае воблачны вечны шпацыр?

што там застаецца існым?
што там лічыцца важным?
хіба гэты чорны — між чорных лічбаў — працяжнік?
хіба гэта ўсё, што нажываем мы ў зямным нашым доме?
а зялёны жолуд на далоні? а каханы ў абдоймах?
а сняжынкі дотык?
а любоў, што так распальвала сэрца?
дзе яно дзяваецца?
ў якую дамавіну кладзецца?
ці мы гэта снім?
ці, можа, толькі падаемся жывымі?
неба, набрынялае маўчаннем, — цёплай вечнасці вымя —
залівае даўкай цішынёй пустых пытанняў прадонне,
нібы ўсё, што ёсць тут, — толькі дождж,
самотны дождж жыццядойны...

* * *

той, хто сыходзіць, заўсёды вяртаецца рэхам,
першай пупышкай вясновай,
калыскай арэха,
роснымі дрыжыкамі на травінчыных спінах.
кінуўшы тут
усе крыўды, чаканні і віны,
той, хто сыходзіць, бярэ з сабой пухкасць аблокаў,
абарачаецца раніцай,
ліпенем,
глогам,
нотай крамянай, што б’ецца ў сініцынай дзюбцы...
той, хто сыходзіць,
сыходзіць заўжды,
каб вярнуцца.

## ВІТАЛЬ*

*Віталю Рыжкову*

гэта ўсмягласць асіплае кані,
адарванай ад ніў вышыні.
дні мае — палігоны гукання,
невыкрыкнае роспачы дні.

я не помню нагодаў вынырваць,
памяць сплёўвае прысак і жвір.
дык навошта ты сонцам настырным
уваходзіш і кажаш «жыві»?

тут даўно ўжо няма чаму біцца —
ў пустасэрцы, напханым асцём.
дык навошта ты цёплай сініцаю
прыляцеў і вярнуў мне жыццё?

быццам ёсць яшчэ голас азімы
пад ільдом занямелых пакут,
быццам можна адным тваім імем
затрымаць мяне тут.

## СПРОБА ВІНШАВАННЯ

потым выйдзеш па піва і знойдзеш сябе ў вясне,
а пакуль — лаві на язык трыццаць першы твой снег,
што — знаёмся! —
гарчэйшы і злейшы на смак за трыццаты:
гэта новыя здрады — вітай! —
гэта новыя страты,
гэта новай пустэчы халодны бліскучы смарагд.
я не помню — даруй! — хто ты мне:
сын ці муж мой? ці брат?
я не помню, навошта мы тут — носім твары чужыя...

---

* Жыццядайны (*лац.*).

але што гэтак цісне адчаем нашыйным,
скажы мне,
і чаму так балюча пячэ хараством снегапад?
усё адно ж
прастаю ўсё жыццё падабенствам слупа
з інвалідам-радком у зубах — рэдкі ўзор ідыёта!
не прачнуўшыся нават.
прабач,
неяк так.
з новым годам...

**У ТАГАНРОГ, ДА ЗАПАТРАБАВАННЯ**

*Каці Гаруновай*

гэты век мяне выкінуў прэч: ні пляча, ні ключа.
«я-хачу-да-цябе» захрасае кітом у горле.
час маўчаць камянём,
час люляць гэты роспачны час —
час-ніколі.

сіні волат самоты, палонны сваёй жа вагі —
быццам неба штурхае і душыць знутры плаўнікамі...
я стамілася ад небыцця,
ад сябе і тугі,
ад гукання!

там, дзе горад-алень мокрым носам уткнуўся ў Азоў,
дзе скруціўся сусвет кацянём у цябе на спадніцы,
я хачу пахаваць маю памяць,
мой боль,
мой назоў
і забыцца.

каб у моры пяшчоты спачыў гэты катаржны кіт,
каб задыхаць нарэшце, скаўтнуўшы адчай невыенчны,
і прачнуцца шчаслівай

на беразе цёплай рукі
чалавечай.

* * *

Нішто табе не дадзена ва ўладу —
ні мова, ні радзіма, ні імя.
Адзінае, што ёсць тваім напраўду, —
самоты ўнутрыгорлавы камяк.

Ты можаш ведаць шлях і мець свой почырк,
лавіць надзею ў дарагіх вачах,
адзінае, што ёсць тваім дасхочу, —
абавязковай смерці верны страх.

Але ідзі, адрынуўшы лякалы...
Няхай зляканы крохкасцю — ідзі!
Адзінае, што часу гэтак мала...
Адзінае, што ты адзін... адзін.

* * *

рукі з прасцінаў зграбаць, як сухое галлё,
і высякаць сябе з ложка ў штодзённую сцюжу.
сябра мільёнадалоневы,
добры мой клён,
будзь маім мужам!
гэтай зіме я пакінула гурбы лістоў —
гурбы цяпла,
абляцелага з пальцаў-няўклюдаў...
будзь маім мужам!
ты ж ведаеш, болей ніхто
нас не ўратуе
ні верай, ні праўдай, ні цудам.

* * *

...верным, як боль,
аксамітным аленем
несці спагаду ў сузор'ях рагоў,
адаграваацца ў цябе на каленях
ціхім ахоўнікам шчасця твайго,
піць з тваіх ранаў пакору,
сцалоўваць
цёплых далоняў аленевы мох.
любы!
калісьці я ведала словы —
вымаўкла ўсё ў навальніцах дарог!
ноч мяне поіць чарнічным адчаем,
ветрам самоты ўплятаецца ў поўсць,
і ні вясна, ні свабода не ззяе мне,
толькі надзея,
што ты недзе ёсць.

* * *

Няхай шчыруе паміж намі злосць,
няхай пячэ ўспамін аб тым, хто здрадзіў, —
ёсць зорны дождж
і ёсць брунатны лось,
застылы святаром на даляглядзе.
Ёсць провід рыб, ёсць вера вераб'я —
і ўсё жыве,
жыве любові дзеля:
апенька сэрцам горнецца да пня,
прадуць анёлы нам на лёс кудзелю...
І жабчын хор свой улюбёны верш
пяе на ўсе лады, раздзьмуўшы шчокі, —
усё жыве.
І недзе ты — жывеш,
такі каханы і такі далёкі...

* * *

і пакуль я ўпівалася ў лужынаў жоўтыя вочы,
набівала жывот перасоленай снежнай кашай,
хтосьці здаў гэты люты ва ўтыль,
збракаваў мой почырк,
пераціснуў мне горла даўкім нясцерпным кашлем,
так што й выдыхнуць цяжка,
не тое што слова мовіць!
рот адкрыеш, а там адно «ка-хаю, ка-хаю...»
але ўпотай
нясу гэты боль як шчаслівую споведзь.
і так горача ў жываце...
няўжо гэта снег ува мне растаяў?

* * *

курчыцца снег.
ад жыцця ашалелі
ў клетцы грудной грудныя шпакі —
так разышліся на рэбраў арэлях,
высунуўшы языкі,
што падаецца,
вось-вось разарвецца
цела няўрымслівая турма,
дзюбы ўцалуюцца ў роднае вецце,
і спруцянее
зіма.

* * *

цесна птаху ў маіх грудзях,
але вольна ў тваіх далонях.
разняволь жа! так мала страх
значыць сёння.

чуеш, любы, здаецца мне,
марна ўсё — і спакой, і ўзлёты.
сёння толькі цяпло ў цане,
толькі дотык.

...цесна птаху майму з людзьмі,
ды любоў адмыкае высі.
падыдзі ж, атулі, вазьмі —
дакраніся!

* * *

звольніўся дзень і як лыка прадаўшы захроп.
прыйдзе самотная ноч, мулкай лапай абдыме...
мабыць, прасцей рэдкай птушцы адолець Дняпро,
мабыць, прасцей Беларусь абляцець на кіліме,
мабыць, прасцей пераплавіць на золата медзь,
папараць-кветку знайсці, прыручыць аднарога,
чым хоць маленечкі шанец аднойчы займець
стаць для цябе сустрэчай, домам, дарогай.

* * *

У спадзеве на бераг
мы мкнулі да рэк,
а яны —
аддалі нас мору.
Я люблю цябе так,
быццам сотнямі стрэмак

імя тваё ўбілі мне ў горла,
быццам хлынула ўсё, што пад скурай гуло,
і сарвала карузлую гаць,
быццам нехта знаёмы
настырным крылом
загадаў мне
кахаць.

* * *

аднойчы квецень выбухне, і сэрца
папудзіцца з раптоўнае вясны,
і вырвецца няўзнак, і панясецца
наўсцяж, не разабраўшы баразны,
каб грэць на сонцы выцвілую грыву...
пусці ж яго, не бойся, не трымай!
бо хочацца яшчэ пабыць шчаслівым,
пакуль ёсць квецень, вольніца і май.

* * *

Там, дзе лета ахоўвае шчасця няўлоўнага трымт,
дзе зялёнага лесу наўсцяж раскашуецца хорам,
там па сцежках чароўных чароўныя ходзяць звяры,
там дагэтуль жывыя
давер, спагада і сорам.
Лапкай мыш бласлаўляе мурог, а вавёрка дупло
высцілае любоўю — сасны гаспадарлівы пробашч...
Там на сцежках зямных мы зямное люляем цяпло,
бо не трэба ні раю, ні выраю
там, дзе ты побач.

* * *

Таму што
прашыты кожны
любові нябачнай прошвай,
таму што
ўсе твае пожні — працяг да ўзлётнае паласы,
таму — усё яшчэ будзе:
і вецер, і ветразь,
ты вер,
мой харошы...
Будзе і саду раскоша пад яблыкаў пошапт,
і дом,
і сын.
Не важна,
quod licet bovi, —
мы ўсе на прышчэпках ад болю
сталелі,
збіваючы столі,
прымаючы сцен ратавальную мазь.
Але і ў сувоях войнаў
нябачнае шво
любові
брала ўсіх нас за жывое,
каб —
трымаць.

* * *

хто табе покуць прыгожыць,
па кім маўчыш?
што ў табе птахам трапеча, маё каханне?
лепей сплаці адзіноце бяссоння чынш
і закалыхвай пяшчоту сваю да рання...
вынасі высь:
болем кожны радок люляй,

памяццю дотыкаў крылы свае выпешчвай...
гэта як быццам гарыць пад табой зямля
і ты ідзеш праз увесь мацярык —
пешшу.
гэта як быццам жыццё ля вады прастаяць —
тая ж дрыгва неўпрагляд
і журба ўсё тая...
але аднойчы выходзіць на бераг язь
з срэбнай усмешкай
і кажа табе
«вітаю!»

* * *

Крык бінтую маўчаннем лістоў
і жыву —
найспавіцейшай з мумій.
Гэта я — твой адданы ніхто!
Гэта я па табе сумую
так,
што лета,
сарваўшы ланцуг,
збегла прэч ад нуды каляндарнай,
і цяпер у нас ёсць толькі цуд,
і дай Бог,
каб
не марны.

* * *

лепей стаі ды растай,
бо расстанне —
it’s time...
стань
абрыкосавым снегам,
наліплым на шыбы.
дзе той адзіны,
хто счытвае нас без ліста,
хто гэту прорву цябе
ў маім целе
зашыў бы?
неба зжавала язык.
блізарукасцю рук
я разбіраю адно твае вусны і плечы.
літары ўсіх алфавітаў
звываюцца ў гук —
той,
што не мае наймення ў жыцці чалавечым.

* * *

там, дзе сон даланёй азёрнай
закалыхвае страказу,
дзе надкусваеш яблыкі зораў,
дольку поўні спрабуеш на зуб,
дзе паркаль блакітных крыніцаў
п’е ружовы адзінарог,
дзе няма патрэбы маліцца —
кожны кожнага там збярог;
дзе шчаслівы, без вечнага «дай мне»,
бог узрошчвае свой багун,
там, дзе не бывае расстанняў,
там, дзе я без цябе магу.

* * *

...не вырвецца, не загалосіць,
бы немаўлё, жывое ўпотай.
у мітусні цераспалосіц
я знішчыла цябе, пяшчота!

цяпер балі ў крыле дарэмным —
я не баюся твайго болю!
пустога цела абярэмак
табе не падуладны болей.

ідзі сабе, шукай дурнога,
мо недзе вэлюм твой пазвалі...
а мне пакінь спакой астрога:
я не жывая,
не жывая...

* * *

ноч таўчэ мяне дзюбай варонінай,
вёсны блазнамі шчэрацца ў шкло.
я жыву —
крыяю,
прытомнею,
ды нішто,
нішто не прайшло.
нават сценаў халодныя спіны
тут маўчаць сваё страшнае «не».
дзесьці
з памяццю лёгкай
адзіны мой
можа жыць без мяне.

* * *

боль скасаваў ва ўсіх мовах пустое «разам»
дні без цябе шамацяць пад нагамі друзам
памяць стаіць над душою ў дурацкіх рызах
вусны ў сутоннях начэй выглядаюць парэзам

гэтак нядоўга й да прозы дайсці, а значыць
час выбірацца адсюль і пад небам ночыць
час даць дарогу маўчанню, вачам — сінечу
веры сланечнік адпойваць жыццём крынічным

значыць, нічога не значаць карункі датаў
крокаў пакуты, пяшчоты чужой крэдыты
значыць, ёсць толькі свабода і ветру дотык
і цішыня, што не ведае словаў «дзе ты»

* * *

забяры гэты вырай
і цяпло забяры,
памяць з коранем вырві —
дурату-папуры!

я хачу толькі волі —
зорны дах, поўны дых!
ноч люляе ў прыполе
вершанятак маіх,

каб, абуджаны ўпотай,
нехта боль мой пачуў...
я хачу адзіноты,
а цяпла — не хачу.

* * *

ты не кліч, не заві,
толькі верасень — мой візаві.
колкі сівер і вусціш сівілы ў маёй крыві.
але кожным радком я малю цябе, любы,
жыві!
аддавайся дарогам, заблуквай у хмельных травах...
салаўіныя сэрцы кунеж,
заварожвай і княж!
так, бязлітасны час,
але жыць немагчыма інакш,
бо любоў ахінае сабой
свет няўрымслівы наш,
асвятляючы ўсё —
нават самую простую яву.

* * *

Неба зрываецца долу — блакітныя коні
ў яблыках белых аблокаў
скубуць пахкі вецер...
Я прысвячаю табе маё ўсё,
маё сёння:
без-цябе-вуліцаў мыліцы,
памяці шчэцце...
Я прысвячаю табе будняў дробнае проса.
Мне ж — сотні жыццяў стаяць на зямным падаконні,
слухаючы,
як зрываюцца долу нябёсы —
ў яблыках белых аблокаў блакітныя коні...

* * *

зразумееш: ні даць, ні ўзяць —
можна толькі ззяць,
толькі слухаць зямлю, занурыўшыся ў пах вясновы.
і пакуль сакавіцкі снег, любы небу зяць,
абдымае яе сабой, парахнеюць словы.
і пяшчота нямой струной праразае боль,
каб ні даць, ні ўзяць, толькі ззяць
найсвяцейшай з музык...
зразумееш, любоў —
гэта штосьці заўсёды больш,
больш, чым могуць змясціць
нашых жыццяў маленькія шлюзы.

* * *

Схамяніся, самотная схімніца,
бачыш,
ветах да вуліцаў хіліцца,
тонкай ножкай
жывое намацвае
між дамамі, палацамі, пляцамі.
Схамяніся,
пачуй, як упрошвае:
«Не згарай! Дарагая, харошая...
Між аблудаў пустэчы прагорклай
не згарай,
будзь маёй зоркай...»

* * *

*памяці Ігара Кагановіча*

гэта чэрвень грызе нутро нам — драпежны чэравень —
рассыпае па градах крывавыя цельцы клубніцаў...
але памятай, лета скончыцца: зыркне ашчэрана
і пастрыжанай пожняй ля ног распластаецца ніцма.
ты задыхаеш зноў, проста памятай: лета скончыцца!
год паўторыць сваё традыцыйнае вечнае сальта,
і руплівая восень — адданая вадаправодчыца —
хлыне ў сэрца дажджом, высвятляючы цемрадзь асфальту.

* * *

*Косцю Чарухіну*

будзем карміць нашых феніксаў проста з рук,
адаграваецца ў зіхценні гаючых пёрак.
я абяцаю.
не бойся,
я больш не памру.
нават не ведаю, што б я рабіла мёртвай.
тут жа такія цуды па ўсёй зямлі!
клён абдымае за плечы, цалуе веццем...
мох і чаромха, ядловец і базілік —
бачыш,
няма калі нават і думаць аб смерці!
бачыш, як раніца просіцца: «на, вазьмі!»
шчасце... агромністы дзень —
мой!
жывы да адчаю!
будуць
і вечны міндаль,
і бясконцы язмін.

будзем
карміць нашых феніксаў,
я абяцаю.

* * *

*Усеваладу Сцебураку*

аднойчы ты ўчуеш раптоўным прадонневым нюхам,
што жыць —
гэта проста і хутка,
як збегаць па мячык.
гэта стаяць насупраць,
маўчаць і слухаць,
глядзець ёй у вочы сваімі вачыма сабачымі...
а ноччу зрывацца ў нябёсаў блакітныя грады,
зубамі хапаць жоўтай поўні салодкую дыню
і несціся аж да ранку
малочным шляхам,
сузор'евым садам,
каб уткнуцца ў калені ёй носам і выдыхнуць:
«любая!
гэта табе!
гаспадыня...»

* * *

горад прылёг кацянём на калені Дняпра і спрабуе
сагрэцца,
горад шукае пяшчоты,
варкоча пра веру ў начным развярэддзі.
горадзе, спі, мой муркотны,
мы страцілі ўсё да апошняй фартэцыі:
болей ніхто не прыйдзе,
болей ніхто не прыедзе.

более толькі боляў, дарэмна сэрца чакае вёснаў.
нават вецер — мой брат! — цяпер за гэты сівер заўзее.
лапкай кранеш за плячо
і пасыплюцца позы ў маўклівае «позна»...
болей няма надзеі.
болей няма надзеі.

* * *

Тоненькім сэрцам, танчэйшым за крок асы,
ён чуе раніцу, рыб і травінак моладзь.
Божа, пабач: мой вялікі маленькі сын
хоча тут жыць і цябе аб спагадзе моліць!
Колькі яшчэ мне ісці па тваіх нажах?
Дай хоць канспект, як спраўляцца з такой задачай!
Так, гэта я — валаку да цябе свой жах
і ў гэтым
найлепшым з сусветаў
няўдзячна плачу.

* * *

вусціш цалуе змяінымі вуснамі
і забірае сабе.
роспач люляе ў пялюшках пракруставых.
роспач мяне заб’е.
вечным злачынцам, сінечай вянознаю
дзень мой завіс, як каршун.
Госпадзе, вытні сабою
наскрозь мяне.
больш ні аб чым не прашу.

* * *

цыравала надрывы, хавала рубцы,
забівала дарэмныя вокны,
але восень прысела ў мяне на гаўбцы
і завыла воўкам.
завывай жа,
зрывай гэты зманлівы рай,
хай у схібах гартуецца схіма,
хай нясецца душа з горкіх шахт
на-гара —
міма часу
і болю
міма...

* * *

*Юлі Фінкоўскай*

Я згараю ў чарговым кастрычніку —
ты ў далонях адхукваеш *жовтень*.
Сон мой выела памяць-апрычніна,
немата раскашуецца ў роце...
Дык вазьмі ж мяне ў вырай рабінавы,
птушанё, пасвячонае ў восень!
Каб —
і крылы,
і вецер у спіну,
і любоў — павучком у валоссі...

* * *

*Волі Злотнікавай*

каб трымацца зямлі, у нас ёсць адно кеды
і кедры —
навылётнай самоты скразная грудная Сібір.
але ўкруцішся ў боль —
у дзяцінства расцягнуты швэдар —
і выстукваеш дзюбачкай вечнае наша «лю-бі!».
больш няма чым сагрэцца ў жыцці...
тут ні ложка, ні лыжкі
я не ўмела займець —
дзікай ягадай спала ў імху.
і адзін толькі Бог
усміхаўся мне кедравай шышкай,
суцяшаючы ўсё:
і каханне,
і смерць,
і тугу.

## ПРАГА

*Максу Шчуру*

### 1

Гэты горад
так цягнецца ў неба гатычнымі шыямі,
так займае хаду,
так глядзіць у душу мудрым рэбе...
Я прынесла яму ўсё, што мела, —
пагарду птушыную,
адзіноты бялізну,
няспраўджаных мараў зрэб'е.
Я прынесла яму грузных крокаў тугу без'языкую.

Горад, горад, глядзі! Гэта ж я —
твой няўрымслівы голем.
Я на ўсіх скрыжаваннях стаю і маўчанне выкрыкваю,
каб застацца ў табе,
не пачутай нікім
і ніколі.

**2**

Горыч прымі ўнутрывочна, але — палай.
Хай надрываецца, кволіцца кнот, але грэе.
Быць ці не быць — гэта толькі пытанне цяпла,
Толькі пытанне ўключанасці батарэі
Там, у адсеках нутра, дзе баліць і пячэ, —
Зрэшты, табе аднаму зразумелае пекла.
Быць ці не быць — гэта толькі пытанне вачэй,
Здольных аднойчы ўтрымаць на зямлі чалавека.

* * *

баішся пакуты ўдыхаў, пакатых дахаў,
баішся караляў і швэдраў з тугой гарлавінай,
таму бяжыш ад сябе:
дзікі вецер — пад пахай,
ва ўсіх кішэнях — каштаны й верад правінаў.
бяжыш,
нібыта магчыма ўцячы ад жальбы,
схавацца ад вусцішы ў Вільні, Маскве ці Празе...
і раптам аднойчы — вочы!
нясцерпныя вочы
салодкім скальпелем
праразаюць наскрозь гэта ўсё —
да пяшчоты —
і становяцца эўтаназіяй.

* * *

*Марыі Вайцяшонак*

і не нагаварыцца, не наплакацца...
шумім галлём — вышынная радня!
садоў маіх асадніца, блакадніца
турботамі ачэпленага дня!
бясконцы шлях, якім пад небам ходзім мы,
дык што нам гэты век? ні сват, ні кум.
шумім галлём, шумім тысячагоддзямі
і застаемся існымі ў радку.

* * *

хто ў табе піша, самотная, хто ў табе піша?
гэта радкамі ў палях разбягаюцца мышы...
гэта на снезе бязлітасным лапамі зайца
вечная кніга вядзецца абзац за абзацам.
гэта становіцца мова карункамі туяў
і на старонках аблокаў табе лістуе.
гэта твой боль рассцілаецца ў тундрах марошкай
і раздаецца ўвушшу вышынёй няпрошанай...

* * *

але толькі лес на мой голас ідзе,
рукой абдымае зялёнай.
свяціся ж імя тваё, верасу дзень,
прыйдзі, валадарства клёнаў!
будзь воля твая, пан касматы мох!
ты сёння адзіны хлеб мой...
але ці ўбаюся, раз слухае Бог
сасновых шышак малебны?
раз дыхае небам жывое лісцё,

сарваўшы няісныя содні,
раз ёсць яшчэ шанец пражыць гэта ўсё
маўклівай чарніцай Гасподняй...

* * *

вымары мора, прашу, і прыйдзі марошкай,
дай заімшэць, дай аддацца зялёнай імшы!
што я магу — валацуга, дзіця, скамарошка?
толькі даросламу шоу свае кволыя швы
ў ціхай журбе накладаць, жылы ніцям аддаўшы,
верыць у вернасць ды ткаць на ўсіх вечнасці бінт...
Ты, Хто мяне пасяліў у жыцця на паддашку!
Ты ж аднаму навучаў мяне — «ўстань і любі!»
што ж Ты трымаеш цяпер гэтай ярасцю гончай?
мне не пад сілу нішто — ні займаць, ні займець.
дай мне бясконцую восень і рыжую поўнач:
ягадны дол, ясны зрок і няісную смерць.

* * *

Сосны пальцамі тонкімі келіхі шышак уздымуць
за любоў, што гаіла нас праўдай
у здрадах і зімах,
там, дзе стрэламі ў спіну аддзячыць мне маці-радзіма,
сосны ў пальцах няскораных келіхі шышак уздымуць...
І забудзецца ўсё, што так ціснула ў сне і наяве:
цёплы шлях у радзімках каштанаў,
пяшчота і травень...
Дух мой вольны прысядзе на беразе Кортэлан’ярві,
і забудзецца ўсё, чым жыла я, —
і ў сне і наяве.

## ПРЫЗНАННЕ

і ў цяпле пеючы, і ў пакутлівай роспачы стогнучы,
я сачу тваіх коней, што ў белай праносяцца пене.
я люблю цябе ўсю.
але часам так хочацца Поўначы
і блакітных імхоў пад нагамі маўклівых аленяў!
можа, продка майго закалыхвалі ночы палярныя
ды святлом неўтаптаным сляпілі кудасыя зімы...
і цяпер я навечны вандроўнік
з адзінаю мараю:
умаўчацца ў прастор незнаёмай далёкай Радзімы.

## KARJALA

Чым ты зраслася з нябёсамі —
выспамі,
соснамі,
падзінаў воспінамі?
Чым ты вырай намарыла?
Мох табе латае росхрыст,
зямля мая хросная,
боль мой,
сястрыца,
вавёрыца,
Кар'яла,
Кар'яла...
Колькі паліла, гняло, палавініла, страшыла!
Так што ні ўзняцца,
ні выпрастацца,
ні агледзецца...
Але буяе надзея чарнічнымі пашамі,
грэе паветра ў грудзях залатая мядзведзіца,
восень
усё апранае
ў любоў неабвержную,

змыўшы і межы, і сцюжы,
і катаў з ахвярамі...
Любая, ці прычакаеш, ці чуеш,
ці верыш мне?
Лёс мой,
сястрыца,
вавёрыца,
Кар'яла,
Кар'яла...

## КОРТЭЛА

*Вадзіму Амірханаву*

жэўжыкам божым гарэзіць,
у кветках куёўдзіцца
сонцам п'янюткі
анёлак —
смяшыць нашых рыб,
раніцай слухае конікаў звонкую конніцу,
стромкаму скрыпеню ўвечар настройвае скрып...
потым сядае, стамлёны, на ганку вавёрчыным
і ў захапленні
ўсю ноч піша небу лісты:
там
на кожнай старонцы
зямным роўным почыркам
толькі тры словы —
Кортэла. Шчасце. Ты.

* * *

Так свяціцца Імя,
так ідзе Валадарства Тваё,
быццам хтосьці ў грудзях мне прарэзаў
аконны праём
і ўтрапёна ўзіраецца ў свет
зноў жывымі вачыма —
сумны вязень, даўно забыты,
дзівак нічыйны.
Кажа:
«Госпадзе, ну і адчайная ж
воля Твая!
Але што ні дасі, вось ён я —
Твой маленькі ваяр,
Твой даверлівы блазан,
пылок на Тваім плашчы...
Праўда ж, хораша разам, скажы?
Ну, чаму Ты маўчыш?
Хай да моташы ўвішнае тло мне давалася ў знакі,
але ўсё, што я вынес адсюль, —
гэта енк падзякі.
Вось я —
выціснуў боль,
выбіў змрок,
перажыў зіму.
...Ладна,
Бог з ім, са словам,
я веру
й дыханню
Твайму».

## ЛАДАГА

Гэта Ладага ўсё распарола зубчастымі шхерамі:
пазрывала пароляў бінты — дагала, дагала...
Каб я здолела ўбачыць сябе,
каб я зноўку паверыла
ў імавернасць глыбінь, у жыцця незасмечаны лад.
Гэта Ладага, Ладага як на далоні разгортвала —
заміж крыку штандараў —
зямлі малітоўны кілім.
Каб люляць маўкліню,
покуль б'ецца зялёная Кортэла —
непрымроены вырай, пакінуты ў сэрцы маім.

## ЦУД

*Ані Трутневай, у памяць аб нашай Кортэла*
*і нашай Вільні*

Ибо вся наша жизнь — это только погоня за счастьем, но счастья так много, что нам его не унести. Выйдешь за хлебом — а жизнь пронеслась: «Это лето, Настя. Сердце мое разрывается на куски».

*Д. Воденников*

### I

лавіць яго вуснаў дрыготкую страказу,
балючаму целу налічваць
за ўчорам учора...
увесь Ты, Госпадзе, — праўда,
увесь Ты — цуд!
увесь Ты — сасновага раю жывое мора...
а любы мой тчэ плаўнікамі мой новы дзень,
люляе ў далонях гарачых паўночны вецер.
увесь Ты, Госпадзе, — бег

па няўмольнай вадзе,
і болей нічога,
нічога няма на свеце...

## II

захавай гэты дзень,
можа быць, нам усё толькі сніцца:
быццам вырай каметамі б'ецца ў сукенках суніцаў,
быццам сосны зялёнымі пальцамі вомшаюць ранне...
я не маю ні слова —
ні слова, ні выдыху...
Аня!
як жа многа, бязлітасна многа нам дадзена шчасця:
вочы здзіўленых рыб,
смак дажджу на любімых запясцях,
сэрцы ў шнарах дарог,
камяні ў ядлаўцовых абдоймах —
безагляднае лета Гасподняе...
Аня, я помню...
і як вецер схіляўся ў малітве над кожным збаночкам,
і як белыя ночы ўкрывалі нас коўдрай малочнай,
і як роспач маю
ты люляла
на самай мяжы:
толькі плакаць і пець, толькі плакаць і пець, толькі
жыць...

## III

і што ўжо хапацца за соннае вуліцы хвост?
і што ўжо цяпер на шматкі,
як смяротніцы,
рвацца?
глядзі, колькі цудаў шалёны наш Бог нам прынёс:
на ўсе мае трыццаць два

і твае ўсе дваццаць!
як быццам усё, што нам ліпень
так шчодра намыў,
спынілася тут —
у касматых вантробах Вільняле,
дзе, скінуўшы смутак, шчаслівыя вечныя мы
стаім і цяпер, як тады,
як адвеку
стаялі.

## IV

бо анёлы тут лётаюць нізка, сядаюць на плечы,
зазіраюць у вочы, бяруць увесь боль пад крыло.
бо так хочацца жыць
і так цягнецца, цягнецца вечар —
неабдымны,
як вечнай самоты няўрымслівы слон...
бо так хочацца верыць, што мы недарэмна любілі
ў гэтым варварскім свеце
(дзе, зрэшты, усё — насланнё!),
што далёка-далёка па сцішаных вуліцах Вільні
нас дагэтуль нясе пад крылом наш шчаслівы анёл.

## V

туды, дзе глог і мята на стале,
дзе грэюць нас
цюлені цэпелінаў,
дзе мы жывём, не ўмеючы сталець,
нікому і нічога не павінны,
дзе летні дождж
па вулках Летувы,
зацалаваных нашым спрытным крокам,
выстуквае «жывы, жывы, жывы!» —
дождж,

зразумелы нам на ўсіх гаворках...
туды!
туды, да шчаснае пары,
дзе ўсё крычыць аб нашай маладосці,
дзе мы — жывём,
дзе мы — гаспадары,
дзе нават смерць здаецца толькі госцем...

* * *

але ўрэшце ўсё ўціснецца ў простае:
«неяк жыла»,
спавядалася дрэвам,
хандру адганяла тундрай
ды за кожным празорыла ззянне і цень крыла —
пра такіх яшчэ кажуць зазвычай
«не ўмела быць мудрай».
і не ўмела:
ні поспехаў мець,
ні аплочваць пазык,
ні насіць ганарліва сваё касабокае цела,
але чуць у адчаі жніва маналог страказы,
але ў прыгаршчах адаграваць дождж асенні —
умела!
...і як лісце пяе,
і як льецца ў палёце вясла
тая ж праўда,
што вечна адкрытая сэрцам дзіцячым,
разумела заўсёды, таму і жыла — як магла,
бо любіла любіць
больш за ўсё
і не ўмела іначай.

* * *

не шукай, каб не ашукацца,
не зважай на гоман надзей.
лепш глядзі, як пальцы акацый
засынаюць у барадзе
неба,
як бласлаўляе ранак
новым сонцам сваіх птушанят.
не шукай, каб не быць ашуканым.
у табе
твая
вышыня.

* * *

проста ісці
міма пярэстых ісцін,
міма чужых далоняў, каханых калісьці,
міма чужога зроку,
змроку чужога,
проста ісці
скрозь дакучлівых шораў шоргат,
міма пустых апалонаў,
усіх палонаў,
слухаць, як вецер пяе ў шавялюрах клёнаў,
слухаць, як туліцца восень да ног сонным лісцем,
проста ісці,
бо дарога і ёсць выйсце.

* * *

я б хацела па хрумсткіх абшарах ісці сабе ў восень,
але тут мой народ штодня разбіваецца вобзем.

* * *

Песні шчасця рыпяць курапацкім пяском на зубах,
ад разумнага добрага вечнага ўжо зводзіць сківіцы.
Што б ні сеяў, пажнеш тут адно —
Сандармох,
Карабах.
Бессэнсоўна высільвацца, лепей адразу засіліцца
і не глухнуць ад болю,
не слепнуць ад праўды прычын,
не жахацца ад ззяння таго, хто пайшоў самаспаленым.
Ты не фенікс.
Таму ўцісні сорам глыбей і сачы,
як разносіцца ноч нематой над астрогамі спальнымі...
...Ноч ідзе, закалыхвае тых, што жывуць на «ура!»
Як жа хораша спіцца ім, Госпадзе!
Чуеш, як лёгка ім...
Ну а ты вымкні волю, сумленне завесь, паўтарай:
ле-пей лё-ка-ем,
лепей лёкаем...
Лепей
лёкаем?!

* * *

І што радок твой? — Трызніва няўцямнае!
Начамі б'ецца ў скронь «ну-што-ты-змог?»,
калі глядзіць твой край вачыма ямінаў
расстрэльных — Курапаты, Сандармох...

І што яна, любоў твая прагорклая,
пяшчота неабсяжная твая?!
Калі хрыпяць раструшчанымі горламі
Азарычы, Трэблінка, Бабін Яр...

Але прымі,
прымі той боль і вынесі,
вазьмі яго, як сына за руку,
каб толькі жыць,
каб выгадаваць выйсце
ўсім —
па каліву, па зерню, па радку.

## ЛІСТЫ

кажуць, лісты ў турму не губляюцца назаўсёды.
яны адрошчваюць крылы, збіраюцца ў зграі лісціныя
і некуды ў неба лятуць,
будуюць там гнёзды свабоды...
татуіроўкі літар не зажываюць на белых спінах.

а вязні становяцца вязамі і прарастаюць праз краты.
лістоту сваю шукаючы, голым галлём галёкаюць...
і неба да іх прыходзіць —
лістамі і лісцянятамі.
і боль адпускае ўсіх, сплываючы прэч аблачынкай лёгкай.

* * *

я яшчэ пажыву, напэўна.
я яшчэ вам паваражу.
хай кружляе радком напеўным
майго провіду ціхі жук.

я яшчэ пажыву, дазвольце,
я яшчэ вам штосьці спяю:
гэта шчасце — абняць у палёце
Беларусь дарагую маю.

я яшчэ пажыву, як дасць мне
Бог пабыць тут хоць дзень яшчэ...
дзякуй, Бог! я жыла бы ў казцы.
самай яркай. не трэба ярчэй.

# Маналог
# пра вечнасць і боль

Пра паэта Веніяміна Блажэннага я даведалася на пачатку 2000-х з кнігі Барыса Роланда. Тое быў звычайны зборнічак апавяданняў, які я набыла на філфаку з цікавасці, а цікавым у студэнцкую пару здавалася ўсё, усё захапляла і вабіла. У адным з апавяданняў Роланд, агаломшаны, апісваў сваё знаёмства з творчасцю яго сучасніка Веніяміна Блажэннага (Айзенштадта), там жа былі і вершы паэта, якія я тады прачытала ўпершыню.

Я на той час была ўжо добра набрынялая ведамі аб літаратурах розных школ, эпох і тэхнік, чытала ўсё, да чаго даходзілі рукі, але гэта быў шок! Шок, што сёння можна пісаць так: не шукаючы арыгінальных тропаў, не дбаючы пра новыя рыфмы, не баючыся падацца наіўным ці неактуальным для свайго часу. Блажэнны як быццам увогуле не думаў пра існаванне часу і чытачоў. А проста пісаў, як Бог на душу палажыў (у выпадку з Блажэнным разумееш, наколькі літаральным, аказваецца, можа быць гэты выраз).

З тае пары я шукала яго, вылоўлівала дзе-нідзе купкі вершаў, драбочкі ўспамінаў, публікацый, згадак. Кожная маленечкая здабыча была скарбам. Гэта пазней у мяне з'явіцца зборнік «Сораспятье», з якога пачнуць паўставаць мае пераклады, пазней я пазнаёмлюся з мінскім паэтам Дзмітрыем Строцавым, які даследуе (і наследуе) творчасць Блажэннага. А тады было толькі яго паветра і рух навобмацак.

Я не думала аб тым, каб зрабіць яго сваім. Ён ужо быў маім — у галасах кошак, сабак, мурашоў... Мінск, такі чужы, незразумелы і няўтульны, раптам зайграў новымі фарбамі. Адно ўсведамленне, што ў гэтым горадзе жыў паэт такой велічыні, жыў так нядаўна, яшчэ за некалькі гадоў да майго прыезду, напаўняла сэнсам і паўнатой будзённыя шляхі. Здавалася, вуліцы яшчэ нясуць яго прысутнасць, ён яшчэ прамаўляе сваю ціхую споведзь. Ціхую, але цвёрдую. У Веніяміна Блажэннага быў абсалютна ўпэўнены голас, без ценю какецтва, голас паэта, які ведае праўду і не цураецца адказнасці за яе. Ён пісаў штодня! Пакінуў пасля сябе агромністы архіў вершаў. Магчыма, паэзія была для яго адзіна праўдзівым маўленнем, а штодзённае пісанне вершаў — адзіна магчымым спосабам існавання.

Здзіўляе, што Блажэнны ўвесь час нібы паўтарае адно і тое ж, часта нават аднымі і тымі ж словамі, але яно не перастае быць моцным і сапраўдным, не надакучвае, не драбнее. У яго няма ніякіх творчых пошукаў. Ды яны і не патрэбныя, калі ты спасціг галоўнае, калі ты ведаеш, што не існуе мяжы паміж жыццём і смерцю, ды лёгка перакрочваеш адсюль туды й назад. Тут слова «актуальнасць» губляе сваю актуальнасць і гучыць недарэчна. Уся паэтычная спадчына Веніяміна Блажэннага мне ўяўляецца адзіным радном, бясконцым маналогам аб вечнасці і болю. А мова яго вершаў гучыць так звыкла, проста, празрыста, што паступова нібы перастае існаваць, сягае туды — у тую самую «немату», дзе застаецца толькі дух.

Я спатыкалася аб гэтую простасць увесь час. Студэнткай я збіралася пісаць па творчасці Блажэннага навуковую працу, але любая спроба прэпарацыі гэтых тэкстаў выглядала марным намаганнем схапіць у прыгаршчы акіян. Атрымлівалася недарэчная жменька вады, а галоўнае — сама стыхія — заставалася няўлоўным і невытлумачальным. Бо яго немагчыма раскласці на складнікі і сказаць, з дапамогай якіх мастацкіх сродкаў паэт вось тут кажа гэта, а там — тое. Таму навуко-

вая дзейнасць была з расчараваннем адпрэчаная. Але мінула больш за дзесяць гадоў і аднойчы я зразумела, што выразна чую гэтыя вершы на беларускай мове, што яны ніколі не переставалі быць «маімі».

У працы над перакладамі самым складаным для мяне было тое ж: захаваць гэтую простасць, непадзельнасць, не ўскладніць яго вершы «прыгожым» і «арыгінальным», засцерагчы іх ад Кудасавай. Гэта была праца не столькі над ім, колькі над сабой. Ды і слова «праца» тут ужытае вельмі ўмоўна. Хутчэй, гэта стала для мяне магчымасцю сустрэцца з паэтам на яго тэрыторыі, куды мяне ласкава (як мне падалося) запрасілі.

* * *

Мяне вучыла мыш мышынай весялосці
І правілам сваёй самотніцкай гульні,
Калі я ў цёмнай келлі быў прыняты госцем,
У закутку сырым, дзе спачываюць дні.

Мяне вучыла мыш нячутнай шэрай згодзе
З мышынай нашай доляй, кволай ды сляпой...
Вучыла немаце — такой сапраўднай ноце,
Калі, пазбыўшы ўсё, становішся сабой.

Прыслухайся ж і ты — і раптам станеш мышшу,
І станеш мурашом, і станеш трын-травой,
Мяне вучыла мыш тамтэйшаму зацішшу,
Калі душы ўжо больш не страшна быць жывой.

* * *

А яшчэ я прашу — захавай тую даль,
Захавай тую даль назаўжды,
Дзе я смутку людскому свой голас аддаў,
Дзе я быў улюбёнцам бяды.

Захавай гэты ліст, што з вышыняў прыстаў
Да маёй беспрытульнай душы,
Быццам быў ён зямнога вяшчун хараства,
Быццам лёс мой ён наваражыў.

І сабаку самотным, прашу, не пакінь,
Зберажы і цяплом атулі,
Гэта ён мне ў нябёсы паказваў шляхі,
Калі я заблукаў на зямлі...

* * *

Колькі, Божа, нам год?
Век за векам з табой мы старэем...
Помню, як на світанні на ўездзе ў Ерусалім
Я аднойчы вёў доўга размову з вандроўным габрэем,
Аказалася потым, што гутарыў з Богам самім.

Знікла тое даўно, я тады быў падлетак бязвусы,
Быў звычайны пастух — проста пасвіў авечкі наўзбоч.
І такім хараством заварожваў мяне твар Ісуса,
Што не мог ад яго адарваць я захопленых воч.

А пасля я трывожныя рэчы даведаўся з часам:
Што распяты мой Бог, той, хто нас навучаў дабрыні,
Але з мёртвых паўстаў — ды ізноў у сусветах мы разам,
Тыя ж сцежкі й авечкі, і тыя ж наўсцяж камяні.

Вось і сталі з табой мы абодва старымі, мой Божа,
Мы спазналі нядолю й самоту, труну і тугу,
І стамлёна сядаем на той жа камень прыдарожны,
І я зноўку вачэй адарваць ад цябе не магу.

* * *

Я не мовіў яшчэ пра сябе ні паўслова,
Я яшчэ не знайшоў сябе ў далях сусветных,
У блуканнях маіх прастадушных, вясковых
Я яшчэ не ўсвядоміў, дзе ніва, дзе сметнік.

Не заўсёды яшчэ пазнаю я па звычцы
Нават дом, нават вокны бацькоўскага дома,
І маё ж дарагое людское аблічча
Падаецца мне часам зусім незнаёмым.

## АРСЕНІЮ ТАРКОЎСКАМУ

Не прыходзіць адказ Ваш. Ці Бог нам сустрэчу адмераў?
Можа стацца, мы неяк раптоўна памром незнарок.
І тады не паэтаў спатканне ў маскоўскай кватэры —
Тое будзе спатканне дзвюх душаў — без рук і без ног.

Як пазнаю я Вас? Як пазнаю на тым я Вас свеце?
Як мяне Вы пазнаеце на замагільным баку?
Я прашу Вас запомніць, што буду ў паштовым канверце,
Там, дзе Вашы лісты, як душу сваю, я берагу.

І тады Вы пазнаеце свой жа пакутлівы почырк,
І як з літараў выйдзе абцінак, Вам стане відно.
Так і здарыцца ўсё, як на ліха я сам напрарочыў:
Дзве душы, два зляканні — ні рук у праклятых, ні ног.

* * *

Хто сказаў, быццам Госпад не пусціць да Трона сабаку?
Не, ён пусціць сабаку і нават прагоніць апостала:
— Надакучыў ты, лысы, мне разам з усім вашым статкам,
Прыбяры бараду сваю, месца наследуе пёс тваё...

Ох і хітры ж мужык ты, да Бога здавён прысуседзіў
Ды храпеш на гаючым паветры, шчасліва здарожаны,
А апостал Палкан абышоў усе вёскі на свеце,
След вышукваў мой і не прасіў адпачынку ў зняможанні.

А апостал Палкан для святыні не шкадаваў сілаў,
На пагорку сядаў ды выпстрыкваў атрады блышыныя,
А па вёсках яго і каменнем і палкамі білі —
Быў апостал мой біты няверні́камі-мужчынамі...

А апостал Палкан быў блукальцам і ў сцюжу, і ў спёку,
Быў за лазняй абданы бязлітасна юшкай гарачаю,
І калі ён аблаяў аднойчы ці лёс свой, ці Бога —
Ён на лаянку меў, безумоўна, падставы сабачыя...

Падыдзі ж, мой Палкане, вунь поўсць як аблезла на псіне,
Не пагрэбуй маёю нябесна-сялянскаю хатаю,
Рады я, далібог, не людской, а сабачай святыні,
Нават пахне па-свойску — жывое, блазное, калматае...

* * *

Адшукайце мяне, як іголку, схаваную ў сене,
Адшукайце мяне — каласок у асеннім гумне,
Адшукайце мяне, і я вам абяцаю збавенне:
Будзе богам збавёны, хто рукі памкне да мяне.

Адшукайце мяне, я прашу, бо я вешчае слова,
Бо я вечнасці недасягальнай сарваны радок,
Адшукайце мяне, бо мне цісне пакута Хрыстова,
Адшукайце мяне, заблукалага ў прышласці змрок.

Але я не сляпы, я змагу вас убачыць, калі вы
Завітаеце ў кут, дзе анучай прыкрыты мой боль,
Дзе я ранаў крывавых хаваю ад вас пералівы —
Я баюся, баюся, што ў цёплых руках вашых соль.

* * *

Не шкада, што я недзе ў дарозе імя сваё страціў, —
Мне падкажуць яго, мітусліўцу, браты-мурашы,
Бо я столькі гадоў разам з імі блукаў як прыяцель
Па задворках сусвету, па цёмных сцяжынах душы.

І падкажа мне Бог мой, навошта я рушыў тым шляхам,
Дзе забытыя пасынкі свету нясуць свой прысуд,
І чаму так любіў я ката ды худога сабаку,
І чаму я прадбачыў нябеснае славы іх цуд...

* * *

Душа мая, душа! —
Ці ашалелым зверам
Бяжыш ты напралом,
Ці пчолкай залатой выпростваеш з даверам
Мядовае крыло?

Ці можа пазяхаеш, на акно прысеўшы,
І лапкай мыеш рот?
Ды ўся ад пазяхання свецішся і млееш —
Цудоўны боскі кот.

Душа мая, душа! —
У дбанні павучыным
Твой працавіты чын.
Што тчэш ты мне, душа, з блюзнерства і святыні,
Прарочыш мне аб чым?

Застылая ў вачах апостала-аленя,
У кругаверці дзён, —
Ці твой груваcткі крок гукае ў аддаленні?
Ці недзе побач ён?

Душа мая душа! —
Хоць кропляю на кветцы,
Ты толькі будзь навек.
Я так хачу жывым застацца ў гэтым свеце,
Звычайны чалавек.

Я так хачу жывым застацца ў кожнай хвілі,
У жыце, у жуку,
У коніку, у каласку ў снапе пахілым —
Ва ўсім, пакуль жыву.

Я жыць хачу імгненне і хачу жыць вечнасць,
Развітвацца, грашыць...
— О, як яно шуміць — загадкавае веча
Маёй жывой душы!..

* * *

Не, цяміў я няшмат у таямніцах Бога,
Я нават у царкве быў часам як не свой,
Адно худых сабак я ведаў на дарогах,
Яны шукалі Рым з няўрымснасцю сваёй.

Той Рым няблізка быў — за полем ды за ўзгоркам,
Нібы ў далечыні святло нехта разліў,
І сумаваў і я звярыным сумам горкім
Па ясных берагах нязведанай зямлі.

Былі нам спадарожныя чароды птушак:
Без цяжару й журбы, адкінуўшы рыззё,
Здавалася, лятуць чысцюткія, як душы,
Туды ж, куды і мы, нястомныя, брыдзём.

І ўсё, што я спасціг, звярыны лёс прайшоўшы:
Паўсюдна твой прытулак і твой родны дом,
І вечны толькі шлях, і вечны толькі пошук,
І пошчак «Алілуя!» ў полі пад кустом...

* * *

І звяры пушыстахвостыя
Палюбілі ўслед за мной
Паўтараць натхнёна: «Госпадзе»
Ды люляць зямны спакой.

І звяры з мальбой звярынаю
Так казалі: — О, Хрыстос,
Аднаму табе мы вінныя,
Ты нам даў душу і хвост...

Дык вазьмі ж у Царства Божае
Нас, малых тваіх дзяцей.
Бачыш колькі веры ў кожнага!
Колькі ўдзячнасці ў хвасце...

* * *

Вось і выйшла нячутна са смерці манашка-кошка,
Што ў каморцы-келлі заўжды за святлом цікуе...
На грудзях у яе не звычайны — святарны кошык, —
Там яна збірае цяпло й дабрыню людскую.

І маю душу яна возьме пяшчотна ў лапкі,
Пакачае ў траве, потым чмыхне ружовым носам,
Нешта мяўкне сваё ды, схапіўшы душу ў ахапак,
Пабяжыць вясёлым подскакам у нябёсы.

Мажа быць, яна Госпаду Богу яе пакажа
Ды, прасветлена вымыўшы лапкай цудоўны тварык,

Ля Гасподняга Трона ціхмянай аховай ляжа,
Покуль Бог налюбуецца мною — такім няздарам...

Я з братэрства найменшых, я з самых, з самых убогіх,
Я ні дома, ні дыма не меў, толькі рвань ды латкі.
Але я чарадзеем славіўся ў чатырохногіх
І я мог рукамі пакратаць палёт крылатых.

Але слова маё вольны вецер у дрэвах гушкаў,
Тое слова было словам Бога і словам веры —
І было яно расчытанае простай птушкай,
І было яно пачутае шчырым зверам.

* * *

Я паверу, што мёртвых хаваюць, хоць гэта і дзіка,
Я паверу, што цела сатлее ў зямлі спакваля,
Але вочы, блакітныя вочы, нябесныя блікі!
Хіба можна паверыць, што неба схавае зямля?..

Ці ласкавым было тое неба, ці несла пагрозу,
Ці вясёлкаю ззяла, ці секла няшчадна вадой, —
Але гэта было маё неба — вачэй маіх слёзы,
І не верыцца мне, што я жыў дзеля смерці адной!..

...Я расплюшчу стамлёныя вочы з магільнага склепа,
Ах, як хочацца неба, як доўга святла я прасіў, —
І пальецца мне ў мёртвыя вочы бясконцае неба,
І агнём маіх слёз запалае нябесная сінь...

* * *

Хіба не ўсё роўна — жывы або мёртвы
пяе са мной разам у гэтым дуэце,
калі ўжо расклаў я чароўныя ноты,
а Моцарт у садзе зайграў на кларнеце.

Ці ў садзе ён грае, ці ў пекле, ці ў раі —
хіба не ўсё роўна, хіба гэтак важна,
калі, аштурхнуўшыся ад небакраю,
кудысьці ўздымаецца цела бязважка.

Калі я раблюся таполевым пухам,
прашытым іголкамі промняў пякучых,
і слухаю, слухаю ўсцешаным вухам
мелодыю лета ў дзівосных сугуччах.

І нават кампанія жаўранкаў лёткіх
падсвіствае Моцарту пошчакам тайным,
і раптам змаўкае ў трымценні салодкім,
салодкім трымценні, салодкім зляканні...

* * *

...Мне так і неўпрыцям, што значыць быць вядомым.
Хіба вядомы гром? Хіба вядомы снег?
Няўжо тады нідзе ў нябёс гасцінным доме
Хоць сціплага кута не знойдзецца і мне?

Ляснога салаўя не клічуць Еўтушэнкам,
Не выдаюць рулад мільённым тыражом,
Але ж і салавей рыфмуе задушэўна,
Каб абудзіць душу, зняверaную ўжо.

Навошта ж я людзям адкрыцца ў вершы мушу?
«Ах, вось жа ён аб чым!» «Пачуйце гэты цуд!»
Хай лепей абмінуць радок мой раўнадушна,
Па сутнасці, я ім нічога не нясу.

Ніколі я не меў ані скарынкі хлеба,
Не трэба мне людское марнасці лухта...
Бо я з пароды тых, хто ў глебу сеяў... неба,
І жыў як набяжыць, і пустазеллем стаў.

З аблокамі ўпрытык жыву і анігадкі,
Ці я дажджом сплыву, ці выблісну ў траве...
Ці вечна буду жыць, ці знікну даастатку —
Не думае аб тым, не дбае салавей.

А слава... Ды нідзе — ні ў пушчах, ні ў дубравах,
Ні ў велічных гаях, ні ў полі, ні ў дрыгве,
Дальбог, не чуў я птаха з дзіўным імем «слава».
...Напэўна, гэты від птушыны не пяе.

* * *

Быць можа, гэта я, быць можа, цень аленя,
Ён столькі год бяжыць праз гончы брэх і страх...
Спыніся, паляўнічы, дай яшчэ імгненне:
Калышуцца зямля і неба на рагах.

Здзівіся ж, паляўнічы, колькі ў звера сілы,
Каб мысай кратаць мох, ад жаху дрыжучы...
Я не хачу, каб стрэл загнаў мяне ў магілу,
Каб здзейсніўся цяпер найгоршы з існых чын!..

Ды калі хлыне кроў з параненага стогну,
Яна цябе залье, як грозны вадаспад.
І запалае лес — зялёная карона, —
І загрыміць нябёс бязлітасны набат...

* * *

...Як быццам мёртвы не адно і тое ж,
Што лугавая кветка ці сініца, —
Навошта ж вечна спаць яму ў сутонні,
Калі ён можа птушкаю зрабіцца?

Калі ён можа абярнуцца ў выдых,
Што дыхае ў дыханні міжпланетным, —
І хіба мёртвы памятае крыўды,
Калі ён стаў часцінкаю сусветнай?

І хіба мёртвы будзе звацца імем,
Што пэцкалася буднямі і днямі,
Калі цяпер далонямі сваімі
Ўладарыць ён над зоркамі і снамі?

Калі цяпер ён простая пушынка,
Пушынка, што праносіцца над полем
І не баіцца з ветрам паядынку,
Шануючы сваю малую волю...

Ды дзіўна ўсё ж — застацца безаблічным,
Вачмі сляпымі пазіраць не ў стане
І слухаць, як салодка недзе кліча
Сусветная пакута развітання...

# Госпад — мой пастыр…

## ПСАЛЬМ 1

шчаслівы той чалавек,
хто да ліхіх не хадзіў,
на шлях граху не ступаў,
з блюзнерамі не сядзеў,
але ў законе Гасподнім
такому й любасць, і здзіў,
закон Гасподні — апора
яму і ўночы, і ўдзень.

і вось ён будзе як дрэва,
што саджаюць ля вод,
чыя лістота не вяне,
якое ў годнай красе
у час належны заўжды
дае належны свой плод,
а беззаконнік — як смецце,
што ў поле вецер нясе...

таму на Божым судзе
бязбожным рады не даць
і грэшнікам не ўсядзець
у праведных грамадзе,
бо справядлівага шлях
заўсёды Богу відаць,
а беззаконнікаў шлях
адно да згубы ідзе.

## ПСАЛЬМ 8

*кіраўніку хора. на гацкі лад. псальм Давіда*

о Госпадзе, Валадару і Цару наш!
як дзівосна імя Тваё ды па ўсёй зямлі!
па-над небам слава Твая разлілася ўсцяж,
Табе дзеці пяюць, каб ліхія ў нябыт адышлі.

калі я сузіраю неба — твор старання Твайго,
дзе Ты месяц і зоры гэтак цудоўна зрабіў —
што ёсць чалавек, што Ты памятаеш пра яго,
і сын чалавечы, што клапоцішся Ты аб ім?

Ты ж няшмат яго ўменшыў за Бога ласкай Сваёй,
тымі ж славай і веліччу Ты яго адарыў,
Ты зрабіў яго ўладаром над усёй зямлёй,
даў яму ў карыстанне ўсе што ні ёсць звяры,

і птушкі нябёсныя, й рыбы, што ў моры сышлі...
о Госпадзе, Валадару і Цару наш!
як дзівосна імя Тваё ды па ўсёй па зямлі!
па-над небам слава Твая разлілася ўсцяж...

## ПСАЛЬМ 22

*псальм Давіда*

Госпад — мой пастыр, ні ў чым я патрэбы не маю:
Ён да лугоў сакавітых прыводзіць мяне,
пасвіць ля водаў спакойных, душу мне ўзнаўляе,
дзеля Імя Свайго праўды сцяжыну дае.

Нават калі я лагчынай смяротнага ценю
буду ісці — не ўбаюся ніякай бяды,
бо Ты са мной і Твой посах — маё суцяшэнне,
кій Твой — мая абарона і мой павадыр.

Госпадзе, ты галаву намасціў мне алеем,
келіх даверху напоўніў мой шчодрай рукой,
пышную зладзіў гасціну на зло ліхадзеям,
з ласкі Тваёй мне ліюцца даброты ракой...

Хай жа ва ўсе дні жыцця майго мне ў спадарожных
будуць і міласць Твая, і Твая дабрыня!
Я ж пасялюся ў жытле Тваім, Госпадзе Божа,
і застануся з Табой да апошняга дня!

## ПСАЛЬМ 50

*Кіраўніку хора. Псальм Давіда. Калі прыйшоў да яго прарок Натан, пасля таго як Давід увайшоў да Бат-Шэбы.*

памілуй, Госпадзе Божа, мяне! памілуй!
паводле вялікай ласкі Тваёй — прымі!
правіны мае сатры, дай мне ўзняцца сілы,
ачысці ад беззаконня, грахі мне змый!

я ведаю грэх мой, заўжды ён перада мною —
стаіць безупыннай назолай, нутро дзярэ!
Табе, аднаму Табе я ўчыніў благое,
Табе аднаму непадробна баліць мой грэх!

праўдзівы Ты ў Тваіх словах і беззаганны
ў судзе Тваім, а я — грэшным сюды прыйшоў,
і вось Ты становішся праўдай у прыхаваным,
у сэрцы высноўваеш мудрасці тонкі шоўк.

ачысці ж мяне ісопам — і буду светлым,
абмый мяне — і я стану бялейшы за снег!
дай целу майму зноў пачуцца Табой сагрэтым,
вярні весялосць маю, дай апрытомнець мне!

на злыя мае грахі не звяртай жа Твар Ты,
правіны мае сатры і абмый душу,

ствары ўва мне чыстае сэрца — сяродак праўды,
трывалы і цвёрды дух мне ўзнаві, прашу!

вярні мне, о Госпадзе, радасць выратавання
і духа Твайго Святога не адбяры!
трымай мяне шчодрым духам, апорай стань мне,
ад твару Твайго мяне, грэшнага, не адрынь!

і я навучу беззаконнікаў сцежцы Божай,
каб грэшнікі да Цябе павярнулі зрок,
Ты толькі вазьмі ад мяне гэты грэх няможны,
дай пераадолець крывавай віны мой змрок!

і я апяваціму радасна Тваю праўду:
раскрыю мой рот і з напевам хвалы пайду!
калі прынашэнням маім Ты ўжо больш не рады —
хай будзе ахвярай Табе пакаянны дух!

і Ты адбудуеш Ерусаліма сцены,
і ў ласцы Тваёй заквітнее Святая Зямля...
тады Табе стануць любымі ўсеспаленні,
тады на ахвярнік Твой узнясуць цялят.

## ПСАЛЬМ 62

*Псальм Давіда, калі ён быў у пустыні Юдэйскай*

Божа, Ты — Бог мой, ад золку Цябе я шукаю,
прагне душа да Цябе — Госпадзе, наталі!
цела маё ад тугі па Табе знемагае
ў гэтай бязводнай і спраглай пустыннай зямлі...

сілу і славу Тваю сузіраў я ў святыні,
больш за жыццё мне патрэбная ласка Твая!
я да апошняга дня Цябе славіць не кіну,
рукі ўзнясу, усхваляючы Тваё Імя!

быццам душа насычаецца ежай дабротнай,
як узгадаю Цябе ў адзіноце начэй,
спевам падзякі і радасці поўніцца рот мой,
робіцца ў ценю крыла Твайго сэрцу лягчэй!

вось я — душой да Цябе прыляпіўся трывала,
хай жа правіца Твая абароніць мяне,
хай мае ворагі стануць здабычай шакалаў,
хай пахавае зямля іх на вусцішным дне!

Цар хай жа ўсцешыцца ў Богу! Ды ўсхваліцца кожны,
хто Тваім Імем аднойчы ў душы прысягнуў,
бо злое згіне навек і па міласці Божай
будуць замкнёныя вусны, што кажуць ману!

## ПСАЛЬМ 83

*Кіраўніку хора, на гацкі лад. Псальм сыноў Карэевых.*

як жа люблю я жытло Тваё, Госпадзе войскаў!
млее душа мая, прагне ў сялібы Твае!
там нават целу становіцца лёгка і ўзнёсла,
сэрца ад радасці Богу Жывому пяе.

дом адшукаць сабе й птушка маленькая можа,
ластаўцы ўтульна тут дзетак сваіх гадаваць —
побач з Тваім алтаром, о мой Цару, мой Божа,
шчасце жыльцам Тваім, шчасце Цябе праслаўляць!

шчасце таму, хто ў Табе сваю сілу знаходзіць,
хто да Цябе шлях у сэрцы сваім пралажыў,
той і лагчынаю слёз паўнаводна праходзіць,
каб акрапілі яе блаславеннем дажджы.

моцны паўстане ён перад Табой на Сіёне!
Госпадзе войскаў, малітву ж маю прытулі
і на аблічча памазанца глянь Твайго сёння,
Божа Якубаў, пачуй мяне, вуха схілі...

лепей адзін дзень жыцця, але побач з Табою,
бо на ўзвей вецер і тысяча дзён без Цябе!
я б на парозе жытла Твайго лепей прастойваў,
чым у намётах бязбожнасці марна гібець!

бо Госпад Бог наш — і сонца, і шчыт ад навалы,
Ён не адмовіць дабра тым, хто ў праўдзе ідзе.
Госпадзе войскаў, падаўца і ласкі, і славы,
шчасце таму, хто ў адным Табе мае спадзеў!

## ПСАЛЬМ 136

там ля рэк вавілонскіх
          мы сядзелі і плакалі,
аб Сіёне смуткуючы,
          у самоце сірочай.
там на вербах ягоных
          гарфы нашы як знакі
невыпеўнай жалобы
          мы развесілі ў моўчы.

бо казалі нам каты,
          вымагалі заложныя:
«заспявайце нам песень
          з вашых песняў сіёнскіх!»
як спявацьмем мы песню
          Тваю, Госпадзе Божа,
на зямлі на чужынскай,
          на зямлі вавілонскай?

о, калі я забуду цябе,
Ерусаліме,
хай забудзе мяне
          мая правіца дазвання,
хай язык мой адсохне
          ці да горла прыліпне,

калі ты не адзіны,
			хто мне ў вечнасці ззяе.

прыгадай жа, Гасподзь,
			сынам Эдомавым дзень той,
як «руйнуйце, руйнуйце яго»,
			звалі, — «знішчайце!»
о дачка Вавілона!
			спусташыцелька свету!
хто адплоціць табе —
			няхай таму будзе шчасце!

назаўжды блаславёным
назавецца між намі
той, хто возьме й раструшчыць
тваіх дзетак аб камень.

# Нябачныя гаючыя імпульсы
*З нізкі «Сто словаў»*

## «ЗГУБНАЯ ЗВЫЧКА»

Усе надарылі мне ў сераду столькі кніг, моцных і пякучых, што ўжо тыдзень жыву ў нейкай іншай рэальнасці. Кніжкі глытаюць мяне, і я ім аддаюся. Адно што стала дужа неўраўнаважанай. Я раней думала, што вось людзі дарослыя — яны загартаваныя, умеюць хаваць пачуцці, быць цвярозымі, цвёрдымі і несентыментальнымі. Фігушкі — так, відаць, дурай і памру... Учора на вакзале, напрыклад, сядзела і раўла над Казанцавай (сын, як заўсёды, далікатна рабіў выгляд, што нічога не адбываецца). Мабыць, мне сапраўды лепш з дому не выходзіць, а то, бывае, магу ўспомніць якісьці верш і заплакаць, проста ідучы па горадзе.

*18 снежня 2014*

## ГАЮЧЫЯ ІМПУЛЬСЫ

Не заўжды стае смеласці сказаць асабіста... Але я так удзячная тым, хто здалёк, з адлегласці, пасылае мне свае гаючыя імпульсы, хто добрым словам (ці нават зусім без словаў) падтрымлівае мяне цеплынёй. Мне гэта зараз проста жыццёва неабходна. Часам нечаканая чуласць амаль незнаёмага чалавека здольная зрабіць цуд. Я таксама нашу ў сэрцы многіх людзей, хоць не заўсёды кажу пра гэта, памятаю пра вас, люблю, малюся аб вашым шчасці і спадзяюся, што мае нябачныя гаючыя імпульсы даходзяць да ўсіх спраўна.

*25 снежня 2014*

## У ПАЛЁЦЕ

Шчасце — гэта калі ёсць чалавек, якога можна пасадзіць насупраць і слухаць гадзіны навылёт, а потым гадзіны навылёт гаварыць, а потым зноў слухаць... А потым насіць гэта ў сабе як таемнае захапленне. Яшчэ б знаходзіць часцей гэтыя гадзіны, выкрадаць іх у спешцы, прысвойваць. Таму што вечна ўсё бягом-бягом... Прыязджаю кожны раз з Менску і толькі ўспамінаю вочы людзей і як шмат не паспела кожнаму сказаць. І ўсё роўна — я такая шчаслівая цяпер ад таго, што камусьці і са мной можа быць добра. Дзіўна мне, лётаю.

*14 студзеня 2015*

## АДЗІНОТА

Учора ўпершыню ў жыцці дачку забралі з дому на некалькі тыдняў — да бабулі пагасціць. Шчаслівая і радасная, Маша сядзела ў дзедавай машыне, прадчуваючы цікавае падарожжа. І я таксама за яе радавалася, бачачы, з якім захапленнем яна выправілася ў вандроўку.

А пасля... пасля чамусьці ўсё пачаловаліцца з рук: і ежа не гатавалася, і машына не кіравалася, нібыта ўсе рэчы застылі ў нейкай сарамлівай разгубленасці.

Так я і прахадзіла ўвесь дзень на непрытомных нагах, з кута ў кут, спрабуючы знайсці сабе занятак.

А потым села ля вакна і нарэшце заплакала, зразумеўшы раптам, што яшчэ далёка не ўсё ведаю пра адзіноту.

*5 траўня 2015*

## ЦУКРОВАЯ ВАТА

— Мама, а чаму аблокі заўжды застаюцца ўверсе, як жа так? — пытае сын, з цікаўнасцю разглядаючы веснавое неба.

— Ну-у-у... А чаму цябе гэта здзіўляе? Там іхняе месца, уверсе, такі іх лёс, такімі ўжо яны створаныя... — пачынаю генерыраваць нейкае дарослае занудства.

Ён мне пераможна, з поўнай упэўненасцю:

— Але ж вось — цукровая вата тут! Яна ўнізе, у нас! Я магу трымаць яе ў руках! А значыць, гэта магчыма! Аблокі — гэта ж таксама цукровая вата...

І я не змагла запярэчыць, бо супраць прыгажосці не можа быць аргументаў.

*9 траўня 2015*

## СТО БАЛАЎ

Каб атрымаць ад таты новую камп'ютарную гульню, Ягор зарабляе балы — за паслушэнства і добрыя ўчынкі. Усяго яму трэба набраць сто балаў, і вось ужо колькі тыдняў ён стараецца.

А сёння раптам кажа загадкава:

— Мама, вось ты ж памрэш?

Уздыхаю:

— Ну так, вядома...

— І я памру, праўда? Усе-усе паміраюць — і людзі, і звяры?

— Так, праўда.

Ён — трыумфальна:

— А я прыдумаў! Я ўзнімуся высока ў неба, адшукаю там Вялікую Душу і папрашу, каб больш ніхто ніколі не паміраў! І каб тыя, хто ўжо памёр, таксама ажылі і больш не паміралі. І тады я атрымаю адразу — сто балаў!

*9 чэрвеня 2015*

## ЛАПКІ

Толькі сабралася ехаць дадому, гляджу — увесь капот ізноў у каціных «лапках». Ужо каторы раз якісьці менскі кот ноччу шпацыруе па маёй машыне. Нібы пакідае шыфраванае пасланне, каціныя іерогліфы. Ці гэта нейкі таямнічы рытуал менавіта сталічных катоў? Бо мае вясковыя каты сабе такога не дазваляюць. Але прыбраць сляды рука чамусьці не паднялася, так і езджу, пакуль не змыюць дажджы, з гэтымі «лап-

кавымі» пісьмёнамі. І чым больш далёкімі ў памяці робяцца менскія сустрэчы, тым больш кранальнымі і дарагімі чамусьці становяцца для мяне мае «лапкі», і я з асцярожнасцю важу іх, як захаваны напамін пра тых, каго люблю.

*24 чэрвеня 2015*

## ЯК МАЕ БЫЦЬ

Сын агаломшыў:

— Вось у цябе правільны мамін твар, такі, як мае быць!

Смяюся:

— А ў іншых мам хіба няправільны? І што ўвогуле гэта значыць —правільны мамін твар?

Ён сур’ёзна тлумачыць:

— Я бачыў многіх мам, і ўва ўсіх твары вельмі розныя... А ў цябе менавіта такі, які заўсёды малююць мамам у кніжках. І ў мульціках усе мамы з такім — правільным, як у цябе, тварам.

Я хацела спачатку яму давесці, што проста ў кожнай кніжнай маме ён бачыць сваю маму, гэта заканамерна... А потым адчула, што, бадай, упершыню мне так прыемна быць не асаблівай і незвычайнай, а менавіта такой, як мае быць.

*15 верасня 2015*

## СТЫХІЙНЫ ГЕРБАРЫЙ

Прыйшла пара, калі пасля кожнага шпацыру з дзецьмі ў маёй сумачцы ўтвараецца стыхійны «гербарый». А як можна адмовіць, калі Маша з самым непадробным шчасцем прыносіць мне то «адзіную такую ў свеце» палачку, то «чароўны» лісток, то «вельмі-вельмі важны» жолуд... І я, баючыся не апраўдаць даверу ў гэткай адказнай справе, цярпліва захоўваю і палачкі, і лісцікі, і жалуды.

Ведаю, хутка прыйдзе іншая пара, калі ў нашай лядоўні пачнуць збірацца «вельмі важныя» ледзяшы і снегавічкі, прынесеныя з зімовых прагулак. А пакуль што ёсць нагода лішні

раз усміхнуцца, выпадкова дастаўшы ў краме замест грошай жменьку восеньскага лісця — такога дарагога, бясцэннага...

*24 верасня 2015*

## ТЫКВЫ, ГАРБУЗЫ І НАДЗЕІ

Калі ў кастрычніку едзеш ранішнім дызелем з Рагачова ў Жлобін, адзінае, што парушае сумную шэрасць краявідаў за акном — маячкі памаранчавых гарбузоў, якія, як апошнія, засталіся непрыбранымі з палёў.

Помню, у дзяцінстве я была перакананая, што «тыква» — якаясьці экзатычная заморская гародніна, бо слова я сустракала адно ў кнігах. І толькі падлеткам даведалася, што, аказваецца, руская «тыква» — наш звычайны гарбуз, які на маёй малой радзіме інакш як гарбузом ніхто не заве. Яшчэ пазней я засвоіла іншае слова — «тыквА», што на іўрыце значыць «надзея».

І вось яны праносяцца за маім акном, зыркія гарбузы-магікане. Як узоры стойкасці, як надзеі, што паміраюць апошнімі.

*6 кастрычніка 2015*

## ВЕЦЕР

Надоечы ішлі мы з сынам са школы, як раптоўна наляцеў шалёны парыў ветру ды пачаў па-сапраўднаму здзімаць дзіця з дарогі. Той спалохана паклікаў мяне, а калі я падбегла ды прыціснула яго да сябе, зрабіў мне вымову: «Ты ж трымай мяне моцна, дзеткі — гэта такое багацце! Бо калі мяне аднойчы здзьме вецер, іншага такога ўжо ніколі не будзе, разумееш?»

Я нічога не адказала, толькі яшчэ мацней прыгарнула яго.

І раптам захацелася вось так абняць кожнага, каго, магчыма, цяпер здзімае халодны вецер адзіноты, і сказаць: «Трымайся! Ты патрэбны, ты — багацце, трымайся! Бо калі аднойчы цябе здзьме, іншага такога ўжо ніколі не будзе».

*31 снежня 2015*

## ALL YOU NEED IS LOVE

— А як перакладаецца «all you need is love»? — спытаўся ў мяне аднойчы сямігадовы сын.

— Усё, што табе трэба — любоў.

— Гэта як? — шчыра здзівіўся.

— А вось так, — кажу. — Любоў — гэта галоўнае ў жыцці. Кожнаму чалавеку для шчасця патрэбная найперш любоў, без яе нішто не мае сэнсу.

— Ай не, — адмахнуўся, — лухта. Вось мне для шчасця патрэбны планшэт. Ну, і чыпсы...

Я толькі ўсміхнулася. Тады ён раптам зачырванеўся ды кажа:

— Мама, я, мабыць, яшчэ не ведаю, што такое любоў. Але, напэўна, гэта і праўда цуд, калі з ёй не могуць параўняцца нават планшэт і чыпсы.

*26 студзеня 2016*

## КУПЮРА

Днямі назірала, як стары, што прагульваўся па вуліцы, раптам рынуўся да лужыны, нібы заўважыўшы там нешта каштоўнае. Параўняўшыся з ім, я ўцяміла: тое, што так прывабіла дзядулю, была ўсяго толькі пяцідзесяцірублёвая купюра. Яна трапяталася ў азалелай вадзе, нібы ссохлы восеньскі лісток — такая ж хрумсткая, карычневая і нічога не вартая, бо купюры гэткія выйшлі ў нас з ужытку яшчэ летась. Стары пакорліва стаяў над ёю, усміхаючыся самому сабе.

Якое трапнае слова, раптам падумалася мне! «Купюра» — гэта ж яшчэ і выразаны з тэксту кавалак, прагал... Як жа лёгка каштоўныя купюры ператвараюцца ў проста паперкі, проста прагалы ў лужыне-тэксце нашай гісторыі!

*6 красавіка 2016*

# Ланцужок словаў
## *Дзённік для партала «Textura»*

### 6 снежня 2014

Что я взрослая и что я женщина — две вещи, которые постоянно забываются и даются мне с трудом. Каждый выход в люди их надо как бы на себя напяливать, чтобы соответствовать тому, как меня видят другие. Иногда нет сил войти в образ, тогда я делаюсь уязвимой. И знаю ведь об этом, и всё равно периодически попадаю в неприятные ситуации.

### 7 снежня

— Ну почему сразу попка?! — возмутился Егор, когда я ему предложила сегодня «попку» батона. — Да может это голова! Почему ты решила, что это именно — попа?

Пытаюсь представить батон о двух головах. Да, красота в глазах смотрящего. А еще — как корабль назовёшь, так он и поплывёт. Надо мне перефокусироваться, пожалуй, по жизни.

Кажется, вести дневник — это как пересказывать стихи своими словами. Жизнь ведь льётся, не спрашивая, как поэзия, как совершенное, вывеенное, точёное произведение, но только на каком-то ином, не человеческом языке. А мы каждый день сумбурно пытаемся эту поэзию назвать, разъяснить, понять умом — и получается такой-сякой пересказ своими словами. А бывает, замолчишь, успокоишься — и вот сразу как бы просвечивает оригинал, прямо чуешь его узоры, но как только захочешь поймать, назвать хоть единым словом, молвить — всё исчезает вдруг, как сон.

**8 снежня**

Когда болеют мои дети, мне стыдно писать. Тогда, мне кажется, я становлюсь как бы каменной, всё застывает внутри — такая окаменелая молитва сплошь, без слов.

Вообще все слова очень часто вдруг кажутся стыдными. Я иногда не могу к телефону подойти, когда он звонит, потому что не знаю, как начать произносить слова — ужасно неловко. Зверям поэтому гораздо проще, они и естественнее поэтому.

**9 снежня**

Чем больше читаю «Минскую школу», тем больше понимаю своё счастье не быть причастной к какой-либо окололитературной, литературоведческой деятельности. Хотя когда-то мне было сложно сделать этот выбор, и я потом еще долго переживала. Быть профессиональным литературоведом — это как выйти замуж за любимую литературу. Конечно, вы теперь вместе навсегда, конечно, появляются дети, научные труды, плоть от плоти этой любви, она становится какой-то важной неотделимой частью тебя, в этом есть настоящее монументальное счастье. И всё же... и всё же, как мне радостно, что я могу все эти тексты просто любить, молча, как и положено любить поэтов, и говорить о них только если вдруг сильно захочется, а не потому, что надо. Может быть, это просто оправдание моей бездарности и лени, не знаю. Но «мне нравится, что вы больны не мной». Это как несбывшаяся тайная любовь, которая застыла где-то на пике «невозможно». Она никогда до конца не перегорит, так и будет дёргать изнутри — и дойти до желаемого нельзя, и разлюбить не получится.

**10 снежня**

Сегодня был такой туман — всю дорогу, километров 15, наверное, ехала как во сне. Ни неба, ни земли, никакой линии горизонта, только обочины различимы и впереди несколько метров. Очень нужная мне сейчас метафора моей жизни.

Вообще Адвент какой-то странный в этом году — тревожно, страшно и отчаянно-одиноко.

**11 снежня**

И почему так хочется каждого встречного обнять? Нестерпимо хочется! Не знаю, куда руки девать. Вот кажется, шла бы по улице и каждого к себе поочередно прижимала — долго так, молча, как на войну.

**14 снежня**

Не знаю, зачем вести дневник и делать вид, что я живу интересную жизнь, читаю интересные книги и думаю интересные мысли. Надо ли кому-то знать о том, что я в отчаянии, что единственное, что держит меня тут, это дети? Мне вообще кажется, что дети и даются нам для того, чтобы сильно не улетать в облака, не копаться в себе и оставаться нормальным заземлённым, ответственным человеком, чтобы «не напиться и не застрелиться».

**15 снежня**

Отпускаю металлические заготовки. Какая хорошая парадигма для всего: сначала раскалить докрасна, максимально хорошо надо раскалить, чтобы потом отпустило. Чем лучше накал, тем лучше отпускает. И ведь отпускает же. Чем острее и больнее ссора, чем больше мы выговариваем друг другу ядов, что накопились, тем потом сильнее отпускает. Кажется, лечу от этой пустоты и спокойствия внутри. Этакий катарсис истерики.

**16 снежня**

Самае цікавае, што кожны раз у хвіліну найадчаю з’яўляецца хтосьці як цуд і сваім хараством, сваёй цеплынёй ратуе. Толькі падумаеш, што ты нікому не патрэбны, як — на табе!

Порцыю спагады і ўвагі. Страшна ўявіць — а што калі аднойчы ўсё ж не здарыцца цуд, і ніхто не адгукнецца на покліч роспачы. Але, па-мойму, так не бывае, не можа так быць — іначай свет страціць раўнавагу. Алілуя.

**17 снежня**

Вельмі стамляюся. Таму не кожны дзень атрымліваецца рабіць запісы. Толькі праца і праца, баляць і цела, і думкі. Як іншыя людзі ўмудраюцца займацца яшчэ і творчасцю паралельна з усімі іншымі клопатамі, не разумею.

**21 снежня**

Была на «Млыне» ўпершыню. Зразумела, што люблю прадаваць прыгожыя рэчы, атрымліваю асалоду ад гэтага працэсу. Пабачыла шмат цікавых таленавітых людзей, але хутка адчула, што рэчы на мяне ціснуць — нават прыгожыя і дасканалыя, я ўвогуле часта падвяргаюся сартраўскай «ташнаце», здаецца, ніхто не апісаў гэтае пачуццё больш дакладна, чым ён. Таму ад вялікага горада мне трэба перыядычна ўцякаць, каб перавесці дых — не ад мноства людзей нават, а ад мноства рэчаў.

**22 снежня**

Самае дзіўнае — фенікс унутры. Вось: я не магу больш быць, я пыл і пустэльня, не адчуваю ні болю, ні спадзеваў. Але ў нейкі момант адбываецца цуд: акрыянне і акрыленне. ШтоThere разу. Як? Дагэтуль не разумею, адкуль у чалавеку столькі рэсурсаў узнаўлення. І чым менш застаецца дзён жыцця, тым мацнее, здаецца, агонь унутры.

**23 снежня**

Нішто не натхняе так, як людзі. Я люблю любіць, а не любіць не люблю. Не люблю быць пакрыўджанай, расчараванай, спустошанай, інстынкт самазахавання патрабуе запаўняць

нутро любоўю. Людзі-маякі, любімыя мае людзі, з прыгожымі яснымі вачамі... Вяртаюся з Мінска заўсёды, назапасіўшы любімых позіркаў, галасоў, твараў, потым перабіраю ў памяці, як перліны, хаваю на чорны дзень.

Насамрэч я ўжо даўно кожны дзень пачынаю з мантры «ніколі, ніколі, ніколі, запомні — ніколі, ніколі, нават не думай аб гэтым». Каб не забыцца і не пачаць марыць пра нейкае простае чалавечае шчасце. Каб навучыцца быць моцнай.

**24 снежня**

После четырёх бокалов домашнего вина провалилась в непробудный пьяный сон, а проснулась от того, что Машенька пытается всунуть заботливо мне под голову кукольную подушечку, а сверху я уже кукольным одеялком прикрыта (всё плечо!). И она так любовно-снисходительно смотрит на меня, гладит по волосам, мол, бедная ты моя непутёвая... Я заплакала от умиления и заснула снова.

**25 снежня**

Самае складанае — прамаўляць гэтыя надуманыя ланцугі словаў, пытанняў, адказаў, вышукваць новыя і новыя нагоды для размоваў, толькі каб не спыніцца перад пасткай цішы, перад пасткай адчайнай прагі проста абняць гэтага чалавека. Але нельга, і трэба кожны раз прыдумваць новыя ланцугі пытанняў і адказаў, каб не дай бог не вывалілася галоўнае з нутра. Жывеш як быццам удыхнуў паветра, а выдыхнуць нельга, так і носіш свой удых у сабе, шалеючы ад яго.

**26 снежня**

Суцэльны бег цудаў навокал, трэба толькі расслабіць позірк. І жыццё, і смерць — толькі адзін з шэрагу неперарыўных цудаў.

**27 снежня**

Цікава чытаць, як людзі зараз падводзяць вынікі года. І я спрабую ўзгадаць свой год. Але гэта няпроста, бо жыву я пераважна сённяшнім. Кожны вечар я, засынаючы, на ўсякі выпадак развітваюся з блізкімі, з жыццём, баючыся не прачнуцца, бо не чакаю заўтрага, а калі заўтра ўсё ж надыходзіць, здзіўляюся і ашалела яго жыву. А ўчорашняе... няма часу ўзгадваць ўчорашняе, і навошта? Насамрэч усё вельмі-вельмі проста, не заўсёды атрымліваецца гэта ўсведамляць, але зірнеш наўкола — і быццам усё гэта толькі Богава ўсмешка, яе так яўна відно па-над усім рэчаісным. Помню, як сын аднойчы за сталом раптам вымавіў: «А што калі сусвет — гэта сон Бога?» Так, хутчэй за ўсё мы Яму проста снімся, або брудзімся ў Ягоных мроях як верш ці мелодыя.

Я не помню, ці былі ў мяне якіясьці публікацыі, дасягненні ў гэтым годзе, трэба вельмі напружыцца, каб скласці нейкі спіс. Толькі некаторыя асабліва цёплыя сустрэчы з сябрамі помню, яны такія рэдкія цяпер і такія для мяне каштоўныя. Без сяброў я не магу, шалею ў адзіноце. І як добра, што ў мяне ёсць мае дзеці-сябры, анёлы-выратавальнікі.

**28 снежня**

Видела сон — из тех, что запоминаются надолго. Всё залито солнцем, вода прозрачная, ясная, ощущение какого-то света во всём, наполненности, и я ловлю руками маленьких серебристых рыбок, ловлю и опускаю в прозрачный пакет с водой. Они живые, подвижные, и от этого чувства жизни мне как-то светло и счастливо. И я знаю, что я не делаю им больно, что они рады, — как будто это у нас игра такая.

**29 снежня**

Иногда чувствую, что стихотворение потекло: медленно так, многословно, громоздко. Это значит — не то, не тот ритм, значит, придется сейчас лишние слова в строчки вставлять,

выдумывать, меня это смешит. Правильный ритм — это когда больше ничего не влезает, когда ничего не присочинишь. Чем больше слов можно выкинуть, тем априори лучше. В принципе весь процесс записывания стихов — это и есть словить правильный ритм, тогда всё сразу, весь комок набежавших слов и переживаний, легко и просто становится на свои места так, что ничего доделывать и не надо.

### 1 студзеня 2015

А бывае, раптам як захочацца быць любімай! Проста любімай, любай жанчынай. Але ад гэтых мараў толькі сумна робіцца. Я не змагла нікога зрабіць шчаслівым. Хутчэй бы ўжо стаць старой, каб перастаць нават думаць пра нейкае каханне.

### 2 студзеня

Два гады мінула, як я збіралася выдаць трэцюю кнігу, тады яна была ўжо амаль цалкам падрыхтаваная да выдання, а цяпер я ўсё далей і далей ад гэтай думкі, усё меней веру ў неабходнасць гэтых кніжак і ў тое, што раблю. Я не магу не пісаць і не перастану гэтага рабіць — на шчасце ці на жаль, невядома. Гэта нейкая пачварная незразумелая тэрапія, якая даецца мне, не пытаючыся, і яна мяне часта ратуе ў найкрытычныя моманты. Але ўсе гэтыя кнігі... Год за годам бясконцай плынню розныя пісьменнікі выдаюць розныя кнігі, пішуцца рэцэнзіі, даюцца прэміі, але гэта чамусьці не ратуе людзей ад нянавісці і ад вайны, я не бачу, каб ад гэтага большала любові, а значыць, я не бачу ў гэтым аніякага сэнсу.

### 3 студзеня

Цікава адчуваць, як увесь сусвет звязаны нябачнымі ніцямі, любы твой рух дзесьці адгукнецца, хоць нам не дадзена амаль ніколі бачыць гэтыя наступствы. Але бывае як цуд, што раптам нібы трапляеш за кулісы, завеса прыпадымаецца і ты апынаешся ў сярэдзіне патаемнага механізма. Так бывае,

калі, напрыклад, сніш чалавека праз усю ноч — неадчэпна, але незразумела чаму, без аніякай нагоды, даўным-даўно ж не бачыліся, не кантактавалі. А потым ранкам бачыш — ад яго электронны ліст акурат уначы прыйшоў. Не кажучы ўжо пра такія больш звыклыя рэчы, калі за секунду да тэлефоннага званка ў свядомасці раптам яўна ўсплывае той, хто зараз табе затэлефануе. Гэта я сёння, працуючы над адным вершам, узгадала, як некалькі тыдняў таму мне Алесь даслаў нечакана словы: «А я... пашкадаваў яе, пані матка. Яна была, відаць, прыгожая жанчына. І вось праблукала ўвесь век па верасовых пустках, палохаючы ўсіх жудаснымі воклічамі. Так і не зведала, якія паплавы за Дняпром, якое цёплае сена, як п’яніць віно, як не зразумееш, шэпт гэта ці шолах вярбы пад ветрам. Так і не зведала, як цвіце ружовы глог ля маёй камяніцы... Мне стала шкада яе. Мне шкада ўсіх — такое ўжо ў мяне сэрца». У мяне пахаладзела тады нешта ўнутры, хоць я яму і не сазналася. Я разумею, вядома ж, што Караткевіч, Рагачоў, а значыць і «Ладдзя Роспачы», так ці іначай, свядома ці пасвядома, могуць быць звязаныя з маім вобразам у чалавека, але... Ён жа не ведаў, што я акурат за дзень да таго літаральна выпакутавала радок «Зарастаю верасам, шалею...» І доўга тады якраз думала над гэтым «верасам», скуль ён прыйшоў у верш, чаму менавіта верас, неяк яно недарэчы, я ж пішу пра Рахель і наўрад ці там, у іх, дакладна гэтая расліннасць, але штосьці ўнутры сказала безапеляцыйна, што мусіць быць толькі «верас», таму, што гэта — пра мяне, таму, што так і ёсць. І ўзгадалася, як сапраўды, у юнацтве я была зачараваная, упершыню натрапіўшы ў лесе ля Рагачова на верасовую пустку, туманны, мроіўны дыван. Ёсць у ім якаясьці таямнічая, някідкая і нават крыху трывожная прыгажосць, якая захоплівае і ўжо не адпускае.

А назаўтра — гэты ліст ад Алеся як пацверджанне з таго берага...

**4 студзеня**

Нейкі перыяд запамінальных яркіх сноў. Сёння сніла, як іду па лесе, халодна, але снегу няма — наша сённяшняя зіма як яна ёсць — гразь, вільгаць, шэрасць... І раптам бачу палянку чарнічніку ля дарогі. Вакол яго і пад ім усё залатое-залатое, бы там восеньскае лісце непажухлае ляжыць і на сонцы аж ззяе, само кустоўе ярка-зялёнае, а на ім ягады — няшмат, як бывае апошніх ягад — там-сям, але яны вельмі буйныя, спелыя і сінія-сінія, уся палянка такая каляровая, як дажджом амытая. Я пачынаю зрываць ягады і есці, мне вельмі хораша ад гэтага ўсяго, неяк па-дзіцячаму весела, але раптам я ўсведамляю, што зараз жа студзень і такога ў прынцыпе быць не можа, што перада мною сапраўдны цуд і таму трэба тэрмінова гэта сфоткаць! Я вырашаю вярнуцца назад, дадому, па фоцік, бягу, але пачынаю апускацца ніжэй і ніжэй з узгорка, замест таго, каб ісці наўпрост па дарозе, бо пачула галасы людзей і вырашыла абмінуць іх. А ніжэй усё больш гразі, пачынаю правальвацца ў яе, і сон збіваецца на нейкі іншы ў іншых — трывожных — танах, перастае быць каляровым і заплывае туманнай трывогай. Цікава, чаму запамінаюцца заўжды менавіта такія каляровыя і ясныя сны, шчаслівыя, а тое, што ў трывозе, застаецца нейкім няўцямным, бязвобразным.

**5 студзеня**

Сніла, што цалую сабачы нос. І так моцна прыціскаю яго да сябе, ажно прачнулася з адчуваннем, што трымаю сабачы твар у руках. Па-мойму, сабачы нос — гэта восьмы цуд свету, асобная магічная дасканаласць. Калі нашы сябры-сабакі падыходзяць да мяне на двары, мне заўсёды хочацца націснуць на піпку носа, такі ён прывабны, бліскучы, скураны цуд, з дзвюма дзірачкамі дыхання. Мабыць, у раі харошых людзей бясконца атачаюць гэткія чорныя вільготныя насы і ўважлівыя мудрыя сабачыя вочы.

**7 студзеня**

Мне редко бывает стыдно, бесстыжая я, в общем-то. Но вот за что стыдно всегда, так это за уныние. Сегодня, в этот чудесный день, когда сам воздух, кажется, дышит любовью и светом, я думаю о том, как же часто я падаю духом и теряю нить смысла, это всё-таки страшный грех — не любить жизнь и не быть за нее благодарным.

Во двор заходят собаки и заглядывают в глаза, удивительные они, в печке горят дрова, я целую Машины пяточки, мои давние хронические болячки разом обострились, но от этого как будто еще живее становишься и лучше чувствуешь себя, свою обусловленность телом, какое оно забавное, простое, смертное. Я не боюсь смерти, но если завтра будет новый день, то я хочу тебя, день, я буду тебя любить.

# ЗМЕСТ

## ПАЭЗІЯ

**ПЕРАКЛАДЫ**

**Кудасава Н.**

К88 Вясна. Вуснам цесна : вершы, пераклады, проза / Наста Кудасава. — Мінск : Кнігазбор, 2021. — 188 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 127).
ISBN 978-985-7227-98-3.

У кнігу «Вясна. Вуснам цесна» ўвайшлі найлепшыя творы аўтаркі з папярэдніх зборнікаў і новыя тэксты. Вершы, проза і дзённікавыя запісы выяўляюць непаўторнасць лірычнага светапогляду паэтэсы, багацце яе вобразных і рытміка-інтанацыйных знаходак, поліфанічнасць эмацыянальных перажыванняў, шчырасць і дасканаласць мастацкага стылю.

**УДК 821.161.1-3**
**ББК 84(4Беи)-44**

Аўтар фотаздымкаў Насты Кудасавай Алена Казлова.
Лагатып літаратурнай прэміі Міхася Стральцова распрацаваны мастаком Уладзімірам Вішнеўскім

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»
Выпуск 127

**Кудасава** Наста

**Вясна. Вуснам цесна**
*Вершы, пераклады, проза*

Адказны за выпуск Г. Вінярскі
Рэдактары Б. Пятровіч, А. Пашкевіч
Дызайн вокладкі Л. Красікавай
Вёрстка Л. Гарадзецкай
Карэктар В. Трэнас

Падпісана да друку 25.02.2021. Фармат 84×108 1/32.
Друк лічбавы. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 9,87.
Ул.-выд. арк. 7,6. Дадатковы наклад 150 ас. Зак. 52.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 249-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.